закранала. Ён быў упэўнены: кожнае наступнае „стаіць на плячах" папярэдняга.

Пакуль што нават аднамомантавыя, дыскрэтныя непрыемныя здарэнні абыходзілі яго. Андрэю Валянтовічу шанцавала на выпадкі спрыяльныя.

Вось і цяпер — падарожжа, што выйгрыш у латарэі. „Кустовыя" сустрэчы будтрэстаў: валейбол, настольны тэнніс, баскетбол, шахматы. Беларусь, Латвія, Летува (як кажуць тутэйшыя хлопцы), Эстонія, Украіна. Ён ездзіў усе гады сваёй працы. Перад тым — у Рыгу, Талінн, цяпер, трэцім разам — у Кіеў. Сябры загадзя прапанавалі пасля спаборніцтваў шпацыр у Карпаты: дзеля таго Андрэй і браў два тыдні яшчэ не выкарыстанага адпачынку.

І раптам — адно фіяска за другім. ...Андрэй глядзеў праз суцэльнае шкло аэравакзала. «Абвяшчаецца пасадка на рэйс..." „Прыбыў самалёт рэйсам..." — Вітанне, чувак! — ляпнуў нехта Андрэя па плячах. Андрэй азірнуўся: — Сам Хведар Дубны! Наша — вам!

— Куды? Ці адкуль?

— Падобна — нікуды...

— У курортнікаў праблемы? — весела спытаў Федзя. У яго праблем ніколі не было, ён не любіў іх.

— Горш — камандыроўка...

— Ну, тады ўвогуле ніякіх пытанняў. Канцавы пункт?

— Кіеў...

— Нон праблем. Хіба мы не за адной партай сядзелі?

Федзя ўхапіў камандыроўку, пашпарт, грошы. А хвілін праз дваццаць ужо размахваў двума білетамі. Высвятліўшы абставіны, ён па-мяркоўна вызначыў:

— Кіеў мне падыдзе. А можа, і да Львіва з табой даківаюся. Арыведэрчы! Сустрэнемся ў паветры!

Андрэй, хаваючы білеты, падумаў, што пані Удача не назусім пакінула яго. А той самы Аквілон ці не свайго Меркурыя прыслаў? Хаця Хведаравы накірунак — хутчэй зюйд-весты, лёгкія брызы, нешта павеўна-адпачынкавае...

... У самалёце Федзя кінуў Андрэю некалькі дзяжурных пытанняў і заснуў, што немаўля ў калысцы. У Кіеве, пакуль Андрэй атрымліваў багаж, ён раптоўна знік і з'явіўся ўжо не ў свэдэры, а ў блакітнай тэнісцы, гулліва напружваючы плечавыя і перадплечавыя мышцы. Федзя крочыў на залі, як пераможца — сённяшні і будучы. Як улюбёнец лёсу. Невысокі, тонкай косці, але добра выспартаваны, з накачанымі мускуламі плячэй і рук — ён займаўся гімнастыкай. Яму падабаўся гэты від спорту. І падабаліся прадстаўніцы той палавіны чалавецтва,

якую прынята называць чароўнай. І ён быў даспадобы тым самым прадстаўніцам. У школе, у інстытуце, на працы. У кампаніях, дзе ён з'яўляўся. Ну, і зразумела, у адпачынку. Тут ужо была яго прастора. Яго жыццёвы картбланш.

Андрэй усміхнуўся:

— І дуды вобземлю? — Пачынаю кадрыць мясцовы кантынгент. Запрашаю ў кампанію.

— Не, ты саліст. А я ж у камандзе... — А... — пачаў было Федзя, але яго ўвагу спыніла яркая бландзідка-што з этыкеткі алею для загару.

Федзя губляць часу не стаў. Назаўтра абвясціў, што выпраўляецца курсам на Еўпаторыю — трэба выручаць дам. Неабходная мужчынская дапамога.

— Якая? — пацікавіўся Андрэй.

— Ну, валізкі, ванзэлкі... Да таго ж цінэйджэркі мяне ўжо не цікавяць — я не падлетак, і яшчэ не захапляюць — сур'ёзных намераў я не маю. Затое маю вялікі інтэрас да асоб узросту элеганцыі, як кажуць гжэчныя палякі.

— Хоць не рыбна, затое юшна?

— А то!

— Сем футаў пад кілем!

— Шчаслівага ўзыходу на Гаверлу!

Гэта ўваходзіла ў планы Андрэя. Не альпінізм, а нармалёвы турысцкі захад.

У Кіеве на турыстычныя фантазіі часу было мала. Выйшлі на Крашчацік, пабачылі на свае вочы знакамітую Сафійку і тую бажніцу, пра якую мясцовыя даведнікі пісалі: „перлина бароко — Андріівська церква”. Ад яе выкіраваліся на Андрэеўскі — Булгакаўскі — спуск. Паглядзелі на Кіеў з чатырнаццатага паверху свайго гатэлю: надарылася магчымасць, даплацілі са сваіх кішэняў і цяпер з адчуваннем самапавагі паказвалі свае візыткі швейцару.

Затое ў Львове чацвёрка, што рушыла ў Карпаты, адчула сябе на хвалі адпачынку. Адзначыліся ў Стрыйскім парку: спазналі непадробную, яркую, церпкую адметнасць Галічыны, аўстрыйскую дыстынктоўнасць і акуратнасць, польскую зухаватасць і вытанчанасць. Уражанні наведвальнікаў ў сваю пару відавочна арганізоўвалі, задума дзейнічала і цяпер: на іх пачуцці і ўяўленні свядома ўплывалі і ў нібыта нязмушаным хараcтве адчувалася ўладная рэжысёрская рука. Толькі вавёркі, што набліжаліся да хлопцаў, каб узяць з рук гарэхі, пра тое не ведалі — яны гарэзавалі тут, мабыць, не першым пакаленнем, і іх увішныя, зграбныя постаці стракацелі ў зеляніне дрэў.

На тых вулачках, на якіх турысты выправіліся папахадзіць, таксама адчуваўся ўплыў — гістарычных абрысаў, бязгучных гукаў былога, хараства відавочнага і таго, што засталося ў аўры горада ад захапленняў вандроўнікаў, ад гіпноза свядомасцяў і рэальных жыццёвых падзей.

Слых з прыемнасцю лавіў словы ўкраінскай мовы: „Шыстка, перукарня, ідальня...” У трамваі два хімікі вялі сваю, прафесійную гаворку не на якім „сродку нацыянальных зносін”, „навукова-неабходным” лексічным эрзацы, а на свойскай, роднай, матчынай... Андрэй ціха пазайздросціў ім — паспрабуй ён з тым жа бухгалтарам паспрачацца па-беларуску. Яго *не поймут*. А ўвогуле трэба будзе паспрабаваць, урэшце — не 37-мы, а 66-ты. Ды і вядзе ж ён размовы з рабочымі па-беларуску. Здаецца, не было выпадку, каб хто не зразумеў.

... Прыкарпацце ім спадабалася. Турбаза, дзе яны атабарыліся — таксама. Мясцовы каларыт — драўляныя двухпавярховыя, з мансардамі, дамы пансіянату: гуцульскае разьбярства. Рэстаран „Гуцульшчына”. Як цацачка. Паміж рэстаранам і пансіянатам-прыгожы масток над рэчкай і вадаспад. З мастка ў пенныя стругі скачуць мясцовыя хлопцы і адна дзяўчына. Здалёк, падчас скачка, яна — не тое каб наяда, але: увасабленне хараства і спрыту: гнуткая, імкліва-выструненая, кожны рух — што спеў. Гэты мост — і прытулак мясцовых умельцаў: свірысцёлкі, люлькі, табакеркі з інкрустацыяй. Сюды ж кожнага дня прыходзіць хлопчык, прыносіць вішні на продаж. „Дядичко, купуйтэ ягоди, а то я всі з’ім!” Вочы ў хлопца — што тыя вішні, позірк — хоць ты вытрусі яму ўсе грошы. На пытанне, хто тая дзяўчына, што так смела скача ў вадаспад, ён з гонарам адказвае: „Наша! Не сувітка ж!” „Сувіткамі” тут называюць усіх нетутэйшых прадстаўніц прыгожага полу - з іншых рэспублік і сваіх, украінскіх усходніц. Як вызначаюць замежных кабет — невядома, ды іх і не відаць. У пансіянаце ўраніцы іх будзяць жвавыя гукі музыкі. Не трэмбіты — дзе-небудзь з пагоркаў, а звычайны гармонік. Са сну з той песенькі Андрэй разбірае толькі адно слова — „смеричка”: яліна. Добрую частку пансіянату займаюць баксёры: у іх тут зборы.

Андрэй з хлопцамі пачалі было асвойваць ваколіцы: падняліся на Макавіцу і Яварнік, а потым вырашылі ехаць да Ужгарада, а вярнуўшыся, рушыць у Варохту і нейкі прыселак, ад якога да Гавэрлы два крокі. 2000 мэтраў — не такая ўжо вяршыня, але ж варта адзначыцца, ды і пабачыць каскад вадаспадаў і класічныя паланіны.

А пакуль было, што ў калейдаскопе — дарога на Ужгарад. Зяляніна гор, гуцульскія хаты — як малюнкі з кнігі казак. Дубровы... Букі, грабы, яліны... Зноў казачна прыгожыя забудовы.

Потым — рызыка Ябланіўскага перавалу. Плённа-ўрадлівы, вінаградарны спакой Закарпацця...

Андрэю падабалася гучанне тутэйшых назваў: Рахіў, Бэрэгово...

Малюнкі за вокнамі аўтобуса падсвечвала яснае сонца ліпеня. А кампанія аказалася якраз такой, як хацелася Андрэю: усе разам і кожны паасобку. Да ўсяго ставіліся са здаровай доляй скептыцызму і цвярозага аптымізму. Калі высветлілася, што няма ніякай надзеі не толькі на месца ў гатэлі, але і ўвогуле на які прытулак пад дахам у славутым горадзе Ужгарадзе, усе спакойна прынялі гэтую дадзенасць. Ну, і што? Ноч над небам горада на перакрыжаванні моў і народаў. Рамантыка!

Аднак неба Ужгарада ахалодзіла іх рамантычны пал спорным дожджыкам, а потым аказаў сябе той самы аквілон. Дзьмула, што ў лістападзе.

Да замка яны ўсё ж трапілі, акуратна прайшлі па ўсіх васьмі залах музея, пабачылі рэшты таго самага касцёлу, дзе ў 1646 годзе была прынятая Вунія. Далей рушылі, куды вочы павялі. А вочы і ногі вызначылі аптымальны маршрут. Перад імі была крама дэгустацыйных він „Променістэ". «Хлопцы, як на сённяшні дзень, лепшага месца на ужгарадскай зямлі няма", — канстатаваў Андрэй. І яны аддалі належнае напоям, якія смакавалі старадаўнія і сучасныя літаратурныя героі і якіх у крамах адной шостай часткі зямной кулі зазвычай не было. Напрыклад, сухі марціні. Пакуль практычны эст Олаў, закінуўшы ў рот чарговую салёную гарэшыну і зірнуўшы на каляровыя шыбы вокнаў, за якімі ліло па-ранейшаму, нават больш — як хто цэбар перакуліў, рашуча не накрыў рукой келіх: „Пора, друзья, пора! Покоя сердце просит!" Ён старанна вымаўляў кожны гук і па-свойму рабіў акцэнт на „о".

На аўтавакзале яны накупілі працьму даведнікаў і жмут газет: на ўкраінскай, венгерскай, румынскай, чэшскай мовах — немаведама навошта. На памяць. Мабыць, так. Пашкадавалі, што гэты горад застаўся не адкрытым імі. Бо ці не самае галоўнае ў незнаемым горадзе — пахадзіць па ім, адчуць водар забудаванай паводле нейчых задумак прасторы... Хаця кожны ўяўляў, мабыць, тое па-свойму. Купрын быў упэўнены: трэба наведаць мясцовую бажніцу, кірмаш і рэстарацыю сярэдняй рукі. Марыэтта Шагінян лічыла: галоўнае-пешшу і на самоце. Нехта спачатку дасканала вывучаў „тэорыю": геаграфічныя, гістарычныя звесткі... Ну, яны прыблізна „паводле Купрына" „засвоілі" гэты сіберна-паўднёвы горад...

...Хвацкі мадзьяр-кіроўца павёз іх праз дождж, які недзе каля Вінаградава скончыўся, а шафёр вёў „Ікарус" пад магнітафонны голас

Хампердынка на такой хуткасці, нібыта збіраўся выйграць гонкі. Нават на перавале шафёр не сцішыў машыну-халодны прыгожы твар, упэўненыя рукі, у вачах скачуць агеньчыкі. „Как это? „Ударим пробегом по бездорожью и разгильдяйству?" — И „автомобиль — не роскошь, а средство передвижения", - падхапіў быў Андрэй. І скончыў па-свойму: „І вельмі жвавага!" — але яго ўсе зразумелі. Рытмічна расцякаўся ў прасторы голас Хампердынка, нешта накштапт : „Дэнст, дэнст, дэнст", а кіроўца зухавата паводзіў плячыма і не збаўляў хуткасці, хаця перавал — гэта перавал: з аднаго боку — гара, з другога-калі не бездань, то добры адхон: дастаткова, каб перакуліцца і разляцецца на дробны мак і аўтобусу, і яго пасажырам. Але Андрэю і яго сябрам падабаўся і кіроўца, і яго манера вадзіць аўтакар. Усе чацвёра шчасліва выйшлі на шашы непадалёк ад пансіянату.

А наступнай раніцай Андрэя пабудзілі не звычныя гукі гармоніка, а стук у дзверы.

— Валянтовіч — хто?

— А што здарылася?

— Званілі з Кіева.

Не проста званілі шукалі. Захварэла маці. Значыць — цяжка захварэла. Бацька з драбязы гвалту ўчыняць не стане.

— Хлопцы, разам на Эверэст пойдзем. Усёроўна — Гавэрлатара, а не вяршыня. Турыстычны марш, — паспрабаваў не псаваць астатнім настрой Андрэй.

Дазваніцца дамоў ён не змог. Дамовіўся, што да Львова яго падкінуць баксёры — іх аўтобус якраз стаяў „пад парамі". У Львове білетаў, зразумела, не было. Як вы пацвердзіце хваробу маці? Дзе тэлеграма? Зусім як той „родны" фінансіст нудотна даводзілі змест інструкцый львоўскія чыноўнікі. І Андрэй нібы прымёрз да касы.

— Што? На вяселле позніўся? На сваё ці чужое? — падышоў да Андрэя нейкі авіятар.

— Крыху горш.

— Куды?

Андрэй патлумачыў.

— Увогуле больш пасажыраў у ваш любімы горад у мяне няма. Але я магу там рабіць пасадку, а магу не рабіць. Хадзем!

І яны рушылі праз аграмаднае, цёмнае лётнае поле. У самалёце пілот спачатку запіхнуў Андрэя ў кабіну, адкінуўшы нейкую перакладзіну, а потым, калі былі ўжо ў паветры, пасадзіў у салоне. Аддаўшы грошы, Андрэй зручна ўмасціўся ў крэсле і нечакана для сябе моцна заснуў. Пабудзіў яго лётчык:

— Здаецца, сюды спяшаўся. ... Андрэй нецярпліва адстаяў у чарзе на таксі. І з кожным кварталам - чым бліжэй таксоўка пад'язджала да дому — трывога расла.

... Каля хаты стаялі дзве машыны „хуткай дапамогі”. На першым маршы лесвіцы ён сустрэў дваіх з насілкамі. Андрэй убачыў твар жанчыны на насілках — шэра-белы, абвостраны, вочы заплюшчаныя, вакол вуснаў — нібыта хто сінькай абвёў. Маці!

... У шпіталі насілкі з маці адразу зніклі за дзвярыма, Андрэя з бацькам за гэтыя дзверы не пусцілі. Рэанімацыя... Лекары ціха перамаўляліся... „Стан клінічнай смерці”. „Страфантын не ўводзіць. Арганізм не прымае”. — Тэлефануйце сюды раніцай, — лекар з „хуткай” прадыктаваў нумар тэлефона, — раней няма сэнсу. І тут сядзець — таксама.

Праз паўзу ён дадаў:

— Дапамагчы вы ўсёроўна нічым не можаце.

... Прыехаўшы дадому, Андрэй з бацькам запалілі святло ў вялікім пакоі — гасцёўні? сталовай? залі? — як хто называў гэтую шматфункцыянальную 17-метроўку. Бацька дастаў аднекуль пачак цыгарэт — ён ужо год як кінуў курыць — і смаліў адну за другой.

Андрэй спачатку ўрупіўся у нейкую адну кропку — ці на вішнёвы том Буніна, ці на глінянага квяцісгага пеўніка, прывезенага маці з экспедыцыі. Потым пачаў разглядваць рэчы ў пакоі, нібыта бачыў іх упершыню. Сярэднеінтэлігенцкі стандарт сярэдзіны 60-х. Паліцы з кнігамі. Тэлевізар. Піяніна. Як маці гаварыла — фано. Рэаліі побыту. Рэальнасць быцця. Адыходзячая рэальнасць? Дзе ўсё было добра, у амаль букалічнай гармоніі. Усё мела адбітак радасці, дабрабыту, ладу. Усё мела лагічныя высновы і падставы. Усё падпарадкавалася нейкім вышэйшым і адначасова зямным рытмам.

Усё — было? Ці ёсць? Усё вырашыцца раніцай. Вырашаецца цяпер... Там, у голых халодных сценах... Сярод чужых людзей. Якія робяць сваю працу. І толькі? Маці — сярод трубак, колбачак, медпрыстасаванняў... Ва ўладзе — лёсу... Адна... Сярод людзей — і адна...

Раней, калі канец зямнога жыцця не заспяваў знянацку, чалавек адыходзіў — у атачэнні сваіх, блізкіх... У прысутнасці святара...

Андрэй зноў агледзеў пакой. Звычайна ён некуды спяшаўся і ўсё вакол падыгрывала яму, існавала ў арбіце яго руху. Цяпер усё як быццам застыла. Трывожная статыка чакання. Ноч. З бясконцай атрыбутыкай існасцяў — цёмная, старожкая, няпэўная. І там, з маці, людзі, для якіх матчына клінічная смерць факт медыцынскай практыкі, лякарскі выпадак.

Мабыць, яны не задумваюцца ды і не могуць задумвацца — яны павінны рабіць, займацца канкрэтнай практыкай пра тое, што смерць — канец драмы жыцця. Якім бы тое жыццё не было.

Андрэй прайшоў у пакой маці, узяў Святую Кнігу са стала. „Бог не стварыў смерць”, Ён „стварыў чалавека для нятленнасці..., але зайздрасцю д'ябла ўвайшла ў свет смерць”...

„...зайздрасцю д’ябла...”

Маці хварэла і раней. Аднак гіпертанію выявілі позна ці больш дакладна, маці выявіла яе сама. Калі здараўся крыз, ціск падаў і дактары высоўвалі розныя гіпотэзы, пасылалі яе да кансультантаў, тыя зноў нешта высноўвалі... Урэшце яна з выпадку набыла ў некага старэнькі танометр (як і многае іншае, яго нельга было набыць у цывілізаванай іх краіне ў другой палове XX стагоддзя), і неўзабаве высветліла, што ў яе гіпергалія, і зусім не ў пачатковай стадыі. Мякка кажучы.

Свой спосаб жыцця маці не мяняла: навуковыя штудыі, бібліятэкі, экспедыцыі, хатні клопат... Дапамога ўсім, хто звяртаўся да яе: студэнтам, аспірантам, калегам.

Бацька ўшчуваў ёй, яна слухала, згаджалася, а потым усё пачыналася наноў... Для Андрэя ўсё, што рабіла маці, было неаспрэчным, адзіна патрэбным, прысутнасць яе ў жыцці была нібыта і не вельмі заўважнай — і адначасова неабходнай. Як паветра. Ён ніколі не задумваўся над тым, што маці разумная, тактоўная, мудрая. Ён проста адчуваў — як гэта выдатна, што ў пару яго дзяцінства маці ніколі не войкала каля вады, як іншыя: „Ой, не плыві! Ой, вярніся!” Мужчына павінны ўмець добра плаваць. Да пэўнай пары і маці ўдзельнічала ў „сямейных заплывах”... У горы маці ніколі не хадзіла, аднак калі Андрэй адчуў уладу гор, як да таго ўладу мора, яна зразумела гэта. Мабыць, адчувала — колькі прычын для здзіўлення і роздуму на тых маршрутах! Разам з мужчынамі яна сачыла за хакеістамі і чакала моманту, калі Озераў гукне сваё класічнае: „Го-о-о-л !” І ўсёй сям’ёй хварэлі за рызыканта-прыгажуна Алена Кальма і не паважалі халодны разлік Данцэра...

Маці карэктна „забывалася” на альбомы, кнігі па мастацтву, пакідаючы іх на якім прыкметным месцы ў хаце — ведала, сын абавязкова зірне. Упершыню ён адчуў удзячнасць за гэтыя матчыны хітрыкі ў Эрмітажы. Хадзілі цэлы тыдзень у знакамітую скарбніцу. Пакрысе агледаючы тое, што ён бачыў у альбомах. Ён з добрым спачуваннем глядзеў на неафітаў у поўным сэнсе слова. Ім прапаноўвалі музэйны марафон - нават не галопам па Еўропах, а бегма па цывілізацыях: Бабілон, Егіпет, Элада, Рым... 20 стагоддзяў ад Нараджэння Хрыста — праз усе Протарэнесансы, Рэнесансы, маньерызмы — да імпрэсіяніз-

ма, кубізма, сюррэалізма... “Даёшь культуру массам!” Агаломшаныя экскурсанты выныравалі з віхурнай плыні мастацтва дзе-небудзь у залі галандцаў з утульнымі чырвонымі тапчанчыкамі: рассаджваліся з палёгкай — неўзабаве фініш. І памяталі потым хіба Калыванскую вазу ды бясконцыя анфілады Зімовага палаца...

Андрэй ведаў: маці спадзявалася, што ў ім прарасце гуманітарны пачатак у нешта прафесійнае... Аднак не пярэчыла, не лемантавала, калі сын выбраў занятак, у якім яму найперш падабалася канкрэтная карысць і відавочны вынік: хата ёсць хата, завод ёсць завод, будыніна — гэта будыніна. Кожны бачыць. Затое глядач, слухач, чытач ён быў удзячны. І першыя ўражанні былі звязаныя з маці, хаця ў тэатры яны да пэўнай пары хадзілі ўтраіх.

Асалода, радасць свята сустрэчы... Маці ў нечым прыгожым, заўсёды аднакалёрным, пастэлёвых тонаў. Водар тонкіх духоў — пачалі з'яўляцца французскія духі і маці ўжывала „Пары суар” і „Кліма”.

Настройванне інструментаў аркестра, асобныя, ясна-нясмелыя гукі. Прыглушана вішнёвы аксаміт крэслаў, сцішаныя галасы гледачоў — слухачоў, што пачынаюць рассаджвацца ў залі... Чаканне, перажыванні — мабыць, больш эстэтычнага, як эмацыянальнага кшталту. Першыя гукі ўверцюры...Чамусьці з дзяцінства найбольш помніліся і падабаліся балеты. Можа, прывабнасцю бязважка-лёгкіх дзяўчын на пуантах?

... Маці была стрыжнем сям'і, яе апірышчам. Пра гэта ён падумаў упершыню — цяпер... Маці была заўсёды. Здавалася, будзе заўсёды. У кожным выпадку — доўга-доўга...

„Званіце раніцай...”

І што пачуеце? Няўжо з жыццёвага цыклу раптам знікне такое неабходнае, важнае? Ва ўсім, што датычыла маці, Андрэй адчуваў асобы сэнс. Нават у яе працы для Андрэя было нешта прынаднае. Напрыклад, маці выпраўлялася не проста ў камандыроўку, а ў — экспедыцыю. І вярталася не з якімі зануднымі паперкамі, а прывозіла для Інстытута абразы, ручнікі, посцілкі, самаробныя карціны, лялек... І фотаплёнкі якія праяўляліся і друкаваліся, каб ператварыцца ў здымкі збудаванняў даўніны, руін, што засталіся ад такіх забудоў, у здымкі вуліц, куткоў і куточкаў гарадоў і мястэчкаў, старадаўніх паркаў...

Маці любіла сваю працу, любіла экспедыцыі — хаця яе ўвесь час папракалі: яна мастацтвазнаўца, а занадта захапляецца этнаграфіяй...

Доктарская матчына мела адпаведны ўхіл — пра ўплыў дойлідства і выяўленчага мастацтва на свядомасць і мастацкую свядомасць.

Спачатку маці тузалі — адны папракалі: занадта шмат тэорыі, эстэтыкі, другія: перагружана канкрэтыкай. Потым супакоіліся — выступленні на навуковых канферэнцыях мелі поспех і розгалас. Абарона здавалася чыстай фармальнасцю.

Можа, не трэба было яму сунуцца ў тыя Карпаты? Але што гэта змяніла б? А ўвогуле — што адбылося?

„Што?” — спытаў ён бацьку.

Бацька гаварыў спакойна, сцішана. Як бы тлумачачы нешта і самому сабе.

Усё праходзіла спакойна і гладка. Раптам вытаркнулася адна цётухна. Сама яна ледзь выціснула з сябе кандыдацкую перад пенсіяй: недарэка — ні слова мовіць, ні прыстойны артыкул напісаць — дык вось яна пафасна абвясціла: „Товарищи, да вы посмотрите, там же одни церквухи!” Яе нечакана падтрымала калега — паводле ўсіх параметраў калега. „Павінна пацвердзіць, нават у хаце Валянтовіч абразы і крыж! Не кажучы пра Біблію! І як член партыі хачу падкрэсліць: Валянтовіч не ў шэрагах перадавога атрада нашага грамадства!” Магчыма, у гэты момант і скранулася — ці застыла? — нешта ў міякардзе матчынага сэрца! У сваю пару маці згадзілася быць апанентам на абароне гэтай цётачкі, што вельмі ж хацела хлябтаць поліўку пры навуцы. Дысертацыя ў яе была — што збор металалому. Факты існавалі, матэрыялы былі сяк-так сабраныя, але што з імі рабіць, шукальніца навуковай ступені не мела ўяўлення, ані-ні. Прыходзіла да Валянтовічаў — няўклюдная, цяжкая, з накінутай на плечы цяжкой самаробнай хусткай, енчыла — грошай няма, муж хворы, дзеці хварэюць, кватэры няма. І маці пашкадавала яе. Нешта там станоўчае спрабавала вышукаць. Гарбатай паіла цётку, паказвала свае кнігі...

Кажуць, у аўдыторыі стаяла цішыня, што ў склепе. Усе ведалі гісторыю абароны той кандыдацкай... Аднак нейкі свяціла мастацтвазнаўства і эстэтыкі спакойна адпрэчыў: „Ну, прежде всего, диссертантка защищается не по научному атеизму. А историю и теорию культуры и искусства невозможно себе представить вне христианских ценностей и античной мифологии.” І далей бліскуча выснаваў некалькі асноўных думак і пацвердзіў іх матэрыяламі матчынай працы. Яго падтрымаў дырэктар інстытута — не так, можа, з-за любві да маці, як з піэтэту перад маскоўскім госцем. Потым пачалі гаварыць маладыя. У падтрымку маці. І абарона адбылася. Быў і банкет. Маці яшчэ частавала, слухала, жартавала...

А ўначы — адна хуткая за другой. Паводле тамтэйшых градацый. Спачатку так званая „лінейная”. Фельчар. Потым — „кардыялагічная”. Урач і медсястра. І ўрэшце — „ТЭБ — тромбазмбаліцыйная „брыгада.

Урач, фельчар, санітар. Урач свяшчэннадзейнічаў, што той пасланец з нябёсаў. Даў тэлефон — каб калі што наступным разам, тэлефанаваць адразу ім. Назаўтра бацька так і зрабіў. Не было віны лекара...

Тымчасам Андрэй думаў пра тое, што матчына неўтаймоўная дабрата абярнулася яе няшчасцем. Ці гэта горшае - паблажлівасць? Яе і калег. Вылезла цётухна. Бач ты! „Усе мы ірландцы і ўсе нашчадкі каралёў...” Спакуса роўнасці... Спакуса адукацыі. Прыцягальная рэнта. Каб потым збіраць рэшты на полі самасеву. У гэтай катэгорыі двухногіх няма ў душы месца ні для вялікага, ні для простата. У іх, мабыць, і дзень пачынаецца не з цуда ўзыходу сонца, а з цвяроза нудотнага званка будзільніка... „Aditum nocendi perfimo praestat fides.” - Давер, што аказваюць вераломнаму, дае яму магчымасць шкодзіць.

Маці ведала ісціны, што існуюць тысячагоддзі... І была наіўнай і добрай... Спагадлівай... Даверлівай...

... Бацька выйшаў з матчынага пакоя, Андрэй застаўся адзін. Глядзеў на паліцы з кнігамі, пісьмовы стол, на кветкі ад таго дня, ад абароны... Што там цяпер? У Другім гарадскім шпіталі? Дзіўна — але найлепшы варыянт для маці ў гэтую ноч: грубая праўда пакут. Яшчэ зямное жыццё...

Калі ўжо тая раніца? Як хутка прабягае ноч звычайна. Не паспееў заснуць — трэба ўставаць... А тут — час расцёкся — нават не як той гадзіннік у знакамітага сюррэаліста, а ў нейкую бясконцую цёмную стынь... Андрэй сеў у крэсла і заплюшчыў вочы. Адкрыў... Шэрань, шэрань, шэрань...

...Урэшце — рассек неба „палымяны меч сонца”. Раніца... Ярка, але холадна. Паўночны вецер. У гішпанцаў і сённяшніх насельнікаў Апеннінаў — ён таксама, як і ў рымлян, мае прыгожую назву: трамантана. Здаецца, такі сівер працінаў Фігерас, калі там з’явіўся на свет адзін з тых, чые творчасць і асоба вызначылі XX стагоддзе.

Аквілон... Трамантана... Андрэй насцярожана ставіўся да нордаў і норд-остаў, ён любіў вясновыя зюйд-весты, прапахлыя водарам прыгод, весты і норд-весты, у якіх адчувалася рамантыка Атлантыкі і злагадна-магутны подых той плыні, што адчуваецца ў наветраных масах, якія прасякаюць акіян — ад Мексіканскага заліва, ільдзістага перасячэння Лабрадора і Ньюфаўндленда, да Еўропы і ўсіх прылеглых марскіх прастораў і выспаў. І нават дасягнуўшы цэнтру мацерыка весты ўсёроўна нясуць у сабе свежы подых акеанічнай масы, мораў дажджоў і туманаў, хаця і падсушаных, правеяных атмасферай звышцывілізаванай часткі кантыненту.

Сёння дзьмуў сівер — жорсткі, калючы. Норд гнаў з ільдоў Ледавітага напамін пра моц Натуры і хісткасць усіх звышінтэлектуальных намаганняў чалавека.

Ночы яшчэ кароткія. Зусім светла, а да той раніцы, калі ўжо можна будзе званіць — далека. Хаця... У рэанімацыю можна тэлефанаваць і ўначы. І тут Андрэй Валянтовіч злавіў сябе на тым, што ён баіцца званіць. Пакуль, да званка, у яго ёсць надзея...

Андрэй узяў са стала маці Біблію. Ён „стварыў чалавека для нятленнасці...”

Папрокі на абароне мелі над сабою грунт. Мабыць, маці не прынізілася б да апраўданняў. Яна не проста верыла. Захоўвала і ахоўвала Веру. Біблію не дазвалялі нават цытаваць — маці чытала яе, як чыталі пакаленні да яе — амаль кожнага дня, вяртаючыся, запамінаючы, асэнсоўваючы... Уся Біблія была ў закладках... На дзень нараджэння Андрэя ў яго 10 год яна прэзэнтавала яму асобнік Бібліі — ягоны экземпляр. Ён доўга не адчыняў Кнігу, а потым, аднойчы, адкрыў — і здзівіўся: нібыта Нехта даў яму адказ на пытанні, што даўно не давалі спакою. Ён пачаў часам гартаць старонкі Кнігі...

Гартаў і цяпер... „... надзея іх поўная бессмяротнасці...” Надзея... „... Я выратую цябе; у трэці дзень пойдзем у Дом Панскі: і дадам да дзён тваіх пятнаццаць год.

Пятнаццаць год... Не так многа... Але і не так мала. Пятнаццаць год золакаў, адліг, снегу, дажджоў, пятнаццаць маёвых квеценяў, пятнаццаць яблычна-жнівеньскіх радасцяў, пятнаццаць іскрыста-белых снежняў, пятнаццаць яркіх восеньскіх ліставеяў... „... яны упакояцца ад працы сваёй...” Не! Маці яшчэ не супакоілася ад працы сваёй...

Сапраўдная надзея... Ілжывая надзея... Новая надзея... Спраўджванне надзеі...

Ён рашуча ўзяў трубку тэлефона. — Валянтовіч? Стан сярэдняй цяжкасці, — адказаў жаночы голас. І дадаў: — блізкі да цяжкага...

Надзея! Стан сярэдняй цяжкасці. Нават — цяжкі. Гэта — стан. Гэта — жыццё. Святы дар! Неацэнны... „І благаславіў іх Бог...” І благаславіў іх Бог... „І быў вечар, і была раніца...”

І была раніца!

У шпіталі яны яшчэ заспелі лекара, які вярнуў маці на гэты бок дабра і зла. Доктар быў вельмі сімпатычны і меў ласкавае і крыху дзіўнае для мужчыны прозвішча: Ластаўка.

Калі ён выйшаў на чарговае дзяжурства, Андрэй прыляцеў да яго з бутэлькай „Напалеона” і наборам залатых лыжачак. Ластаўка засмяяўся: „Толькі барзымі шчанюкамі!” А потым, гледзячы на разгубленага Андрэя, дадаў: “Калі вам так ужо карціць адцзячыць, можа, нада-

рыцца набыць томік Барыса Пастарнака... Любы... Гэта, дарэчы, не лягчэй, як вярнуць са стану клінічнай смерці... У яго ёсць геніяльныя радкі: „И вот, бессмертные на время...” I не толькі гэтыя...”

Просьба лекара была не з простых. Анафемы паэту адыходзілі ў мінулае, але выдавалі яго мала. I быў кніжны бум і кніжны голад — на сапраўдную літаратуру і на чытво. Дапамог „імператар” — Андрэй ухапіў адпрэчаную лекарам бутэльку каньяку, дадаў ружу, набытую ў каўказцаў — „натуралістаў”, і рушыў у цэнтральную кнігарню, да знаёмай гандляркі — часам яна пакідала яму „дэфіцыт”. А праз некалькі дзён бег у шпіталь з маленечкім томікам колеру тэрракоты. Лекар не верыў вачам сваім: „Дзякуй. Але больш я не магу ніяк дапамагчы. Ідзіце да галоўурача. З палаты яе перавялі не ў палату, а ў калідор.”

— Не можа быць!

— Ідзіце адразу да галоўнага! — зноў параіў Ластаўка.

Але Андрэй спачатку, каб не парушаць субардынацыю, паляцеў да загадчыка аддзялення.

I адкуль толькі ласкавы Провід даў гэтаму суб'екту такое значна-светлае прозвішча — Валконскі? Загадчык глядзеў на Андрэя алейна-нахабнымі прусачынымі вочкамі і паважна пэўніў:

— Месцаў няма. Што я магу зрабіць?

А праз паўгадзіны па селектары салодка дэкляраваў галоўнаму, да якога ўсё ж трапіў Андрэй:

— Наша дарагая пані Валянтовіч у дзевятай палаце.

А ў дзевятай палаце быў абход. I каля матчынага ложка, збіраючыся адыходзіць, стаяла асоба ў белым халаце — ўрач. Андрэй уважліва глядзеў на яе і яму здавалася, што ён недзе яе сустракаў. Прыгожая... I такі знаёмы твар... Пазней ён зразумеў — яна вельмі падобная да Таццяны Шмыгі. Адзін да аднаго.

Маці пачала выздараўліваць. Тамара Васілеўна — так звалі ўрача — сама рабіла ёй унутрывенныя ўколы: падчас вайны маці была донарам („Донар-патрыёт” — так пісалі пра яе ў газетах) - і дабрацца да вены мала хто з медыкаў умеў.

Андрэй выпрасіў у галоўнага пропуск і мог прыходзіць у шпіталь любым часам. То ён бачыў Тамару, так бы мовіць, у рабочыя моманты. Адразу было відно — яна не адбывала абавязак, не маніпуліравала прафесійным начыннем, не шаманствавала, аднак было ўражанне, што адбывалася ледзь не сакральнае дзейства, у кожным выпадку - дыяканічны акт. Рухі яе былі мягкія, плаўныя, дакладныя. I відавочна — яна лекавала не толькі растворамі, што ўводзіла ў кроў маці, не толькі прапісанымі таблеткамі, яна была нібыта медыўмам сіл куды больш моцных і канкрэтна не бачных. Сама яна наўрад ці пра тое

задумвалася, але гэты сапраўдны і рэальны дар адчуваўся ва ўсім: у поглядзе вачэй, у інтанацыях голаса, у ласкавай неаспрэчнасці жэстаў.

Пазней Андрэй даведаўся, што Тамара, скончыўшы на „выдатна" фельчарска-акушэрскае вучылішча, тры гады паступала ў медінстытут. Што там знаходзілі ў тым інстытуце, каб не прымаць... І якую прагу да лекавання трэба было мець! Скончыла інстытут яна таксама з чырвоным дыпломам. Прафесіянал... Але і не толькі... Яна ўваходзіла ў жыццё, у лёс людзей. У яе памкненні дапамагчы, зменшыць пакуты — было нешта адвечна жаночае, старадаўне-вартаснае: адачасова ад маці, ад сястры, ад ахоўніцы ачага. Нешта запаветнае, старажытнае, уласцівае капланкам і вяшчункам. Здавалася, ёй падуладнае тое, што перадаецца нейкім чынам яе пацыентам, уплывае на іх. Не толькі веданне хвароб, іх сімптомаў, метадаў лячэння, не толькі веданне фармацэўтыкі, не толькі ўменне лячыць хваробу паводле прадпісанняў медыцынскіх кніг і вопыту — чужога і свайго. А інтуіцыя, відушчасць, укладзеныя ў глыбіні натуры, тое няўлоўнае, што робіць прафесію пакліканнем. Робіць умельства майстэрствам, таямніцай, дарам. Гэта пры тым, што Тамара — цалкам пазбаўленая якіх містычных рысаў ці асаблівасцяў. Уся, цалкам — ад рэчаіснасці, ад Натуры, ва ўсіх яе праявах, ад зямнога грунту, ад жыцця ў яго звычайнасці і святочнасці, ад трываласці чалавечых адносін, побыту і дабрабыту.

Усё гэта Андрэй заўважыў пазней. Калі маці выпісвалася са шпіталю, Тамара занатавала яе хатні тэлефон і дала свой — таксама хатні. „Я вас абавязкова наведаю", — прамовіла яна, развітваючыся, і маці ўздыхнула з палёгкай.

З палёгкай уздыхнулі і Андрэй з бацькам. „Уладар неба і зямлі дасі табе радасць замест смутку твайго"...

Яны зноў былі разам — як доўгія гады да таго. Як здавалася Андрэю — як заўсёды.

Вяртанне маці дадому было святам. З гэтай пары Андрэй прысутнасць маці ў сваім жыцці і ў жыцці наогул адчуваў не так, як раней — як нешта неад'емнае, але звычайнае, звычнае, будзённае, незаўважнае. Цяпер гэта была асобая радасць, вернутае шчасце, усвядомленае існаванне побач з ёю. Раней ён клапаціўся аб якіх прэзэнтах толькі перад Днём анёла. Днём нараджэння, вялікімі святамі. Пасля яе вяртання са шпіталю ён імкнуўся абавязкова нечым узрадаваць яе: набыць кветкі, купіць нейкія прысмакі, сувеніры... Едучы куды — памятаў: вяртаючыся, трэба нешта набыць для маці.

Што яна адчувала пасля хваробы? Ён не ведаў — і ніколі не пытаўся... Што сталася пэўным — кожны візіт Тамары маці ўспрымала як свята. Калі маці адчувала сябе кепска — як толькі адчыняліся дзверы і ўваходзіла яе доктарка, яна неяк святлела ў твары, спакайнела, душэўна лагаднела. Яшчэ да таго, як Тамара рабіла ўколы ці рабіла яшчэ якія працэдуры, маці, падобна, адчувала палёгку. Калі маці адчувала сябе добра і не вельмі прыціскалі інстытуцкія справы, яна гатавала нешта смачнае — з таго, што мела, так бы мовіць, яе асабісты кулінарны ці кандытарскі знак. Адносіны былі з абодвух бакоў — не проста і не толькі як у пацыенткі з урачом і ўрача з пацыенткай.

Тамара прыязджала любым надвор'ем: зімою, у завіруху, у восеньскую і вясновую слоту, у летнюю спёку. Лета, дарэчы, сталася самай небяспечнай парой году пасля ўскладнення са здароўем. Маці кепска адчувала сябе ў горадзе, трывожна было і на дачы — пакуль „хуткая” прыедзе... Ды і галоўны давер у яе быў да Тамары. Мабыць, яна стала для маці і лекаркай, і нечакана знойдзенай дачкой, і сястрой — міласэрнасці і спачування. Добрай душой — з ясным розумам, дасканалым майстэрствам, з добрымі і ўмелымі рукамі. Да таго ж Тамара была прафесіяналам не абы якога гарту: сачыла за навінамі фармацэўтыкі — раіла, выпісвала. Даставала лекі. Не абыходзіла ўвагай перыёдыку: новае ў навуцы і практыцы, кансультавалася, спрабавала і вынаходзіла. Лячыць маці, дарэчы, было не так проста: ашчаджаць сябе яна хранічна не ўмела, існаваць у межах рэжыму не сталася яе побытавым запаветам. Тамара разумела, што характар перарабіць нельга і спрабавала іншыя спосабы станоўчага ўплыву. Як там у клятве Гіпакрата? „У які б дом я ні ўвайшоў, я ўвайду туды для карысці хворага...” Для карысці... Карысць Тамара разумела шырока...

Яна прыязджала разам з мужам, і яны забіралі маці да сябе на дачу, а адтуль маці вярталася задаволеная, з аграмадным букетам — ахапкам — бэзу. З пэўнай пары маці з Тамарай сталі наведваць кожны год выставу кветак у жніўні. Адтуль іх сустракаў Андрэй або бацька, і яны ішлі палуднаваць у рэстарацыю побач з выставай.

Раней Андрэй пра сябе лічыў гэтыя матчыны экскурсіі данінай сентыментальным жаночым прыхільнасцям, без асобай ахвоты суправаджаў яе на тыя кветкавыя святы — адна маці не любіла нікуды хадзіць. Цяпер, пасля той ночы ў шпіталі, для яго набыла асобы сэнс кожная ўсмешка маці, кожны яе клопат, кожнае захапленне... А Тамара, не тэарэтызуючы дарэмна, лекавала маці тымі спосабамі, пра якія ён прачытаў пазней: гэта былі і тэрапія фларыстыкай, і тэрапія хараством, і арттэрапіяй - тэрапіяй мастацтвам. Яны хадзілі ў тэатры,

на мастацкія выставы... Лекарка ніколі не прапанавала маці кінуць працу. Кагнітыўная тэрапія? Звяртанне да розуму — як да універсальнага лекавага сродку?

З цягам часу Валянтовічы пазнаёміліся з усёй сям'ёй Тамары. А калі ўзяў шлюб Андрэй, Тамара была ўжо сваім чалавекам — больш, як сваячка.

... Праўда, на пятнаццаць год, як у Святой Кнізе, не давялося padoўжыць жыццё маці... Аднак дзесяць год былі... Было і апошняе — цяжкое — лета... Кіслародныя падушкі, чарадзеі з тромбаэмбаліцыйных брыгад: былі там лекары ад Бога... Але ў апошні раз у шпіталь маці завезла нейкая жвавая цётка-весялуха. Ён не ведаў — добра гэта ці не: такая вясёлая доктарка ў такіх невясёлых абставінах...

Не змагла ўжо нічога зрабіць і Тамара... У той пахмурны дзень, калі зноў дзьмуў аквілон. І Андрэй з бацькам не хацелі верыць пачутаму: а палове першай ночы...

А калі маці праводзілі ў апошні шлях, усталявалася вераснёўская злагада: сонца, але не спякотна, прахалода, ажно не холад... Народу было — не пералічыць...

А потым - колькі разоў яны разам з Тамарай ездзілі да белага мармуровага помніка і да бярозы, якую пасадзіў над матчыным помнікам муж Тамары... Сама Тамара сталася для Андрэя нібыта часткай маці, светлым напамінам пра яе. Потым яны пачалі ездзіць на тыя ж могілкі да бацькі Андрэя, да мужа Тамары... Засталася — нейкая повязь, сувязь, што мела пад сабою рэальнае апірышча і нешта ірэальнае, невытлумачальнае, патаемнае... Роднаснае, але не крэўнае, духоўнае, выснаванае на тых матывах, што бяруць пачатак у жыццёвых вытоках... „...стаў чалавек душою жывою...” Душою блізкаю... Душою, што чуе і адчувае тваё гора і тваю радасць...

Калі ўжо даросламу сыну Андрэя трэба было ехаць на конкурс, не знайшлося спонсара. На той момант у самога Валянтовіча не было грошай — хоць памры. І не было магчымасці зарабіць, хаця, як пісаў паэт яго маладосці, былі «как будто руки-ноги, и даже вроде голова”. І рабіць Валянтовіч умеў. Аднак грашовага эквіваленту ні тыя здольнасці, ні тыя канкрэтныя высілкі не мелі. Жыццёвыя зюйд-весты хадзілі недзе ў іншых шыротах. І Тамара — зноў Тамара — пазычыла грошы. Пазычыла ў тую пару, калі ўжо ніхто нікому не пазычаў, калі існавалі легальныя і нелегальныя ліхвяры, што давалі пазыку пад працэнты.

...На тым конкурсе сын не быў лаўрэатам, гэта адбылося пазней. Аднак і сын, і бацька ведалі — яны скарысталі шанц... Дзякуючы Тамары...

З часу іх знаёмства столькі ўсяго перамясілася ў ступе часу... З'яўляліся і гаслі надзеі... І зноў з'яўляліся... Андрэй паспеў ужо напісаць сваім даўнім сябрам у Балтыю, што цяпер у яго краіне, як ва ўсіх людзей, ён складае справаздачы на сваёй мове... А потым, калі тое зноў сталася немагчыма, проста змоўк... Збудавалі новы аэрапорт — але мала хто карыстаўся ім: аграмадны, пусты, ён нагадваў дэкарацыі для якога трылера... Андрэй уведаў і здрады, і страты, і набыткі... І не ведаў — ці зможа калі аддзячыць Тамары... Ці здарыцца выпадак для такога ўчынку... Аднак, калі давялося прачытаць знакамітую клятву эскулапаў, ён быў упэўнены — Тамара мела асобае права на тое, чым заканчваецца запавет: „Мне, што непарушна выконвае клятву, хай будзе дадзена шчасце ў жыцці і ў мастацтве і слава ва ўсіх людзей навекі вечныя..."

І ўсё часцей Андрэю ў галаву прыходзіла думка, можа, Провід не выпадкова наладжвае так павароты лёсу? У сонечную рэальнасць дня жыцця — хіба што з лёгкімі воблакамі — ўрываецца віхура. Выпрабоўвае на трываласць. Вызначае — хто ёсць хто. І пацвярджае старадаўнія высновы : „Вернаму сябру няма цаны", таму што „ён любіць у любы час..." І ёсць „справа веры, справа любові"...

А старадаўні вясёлы скепсіс Валянтовіча, водсветы і рэшты маладосці, з яе спрэчкамі, смехам, з яе бажышчамі і думкамі, з яе гідальга і чароўнымі дамамі, яе пакутамі, сапраўднымі і наўмыснымі, са святамі і будзёншчынай — усё гэта нібыта засталося і, падобна, трансфармавалася ў жыццёвым рытме чалавецтва, у чары і фантазіях свету — пад сонцам і пад яго рамантычным супернікам... У няпэўнасці зямнога існавання, зрушанага homo sapiens і homo technicus у сваіх адвечных высновах, у гульні з сіламі, перад якімі гэтыя homo — ніхто і нішто, у глабальных абставінах, калі кінутыя выклік часу і прасторы, ён усё больш пэўніўся — як многа закладзена ў нас саміх і як важнаісці сцяжынай, што працярэбленая Тым, хто ведае начатак і канец. І як неаспрэчна важна, хто прымае разам з табой удзел у кнізе жыцця.

Нават калі з табою былі не заўсёды тыя людзі, і ты чытаў і чытаў не тыя старонкі — і ствараў не тыя старонкі... А можа, увогуле была не тая кніга... А ты ўрэшце спыніўся на нейкай старонцы і бясконца слізгаеш вокам па літарах... А то дык і зусім не бачыш і не разумееш тэксту... і на той старонцы жыцця гуляе суровы вецер аквілон — нават калі „много дней дует знойный сирокко".

Аднак ты гартаеш у кнізе памяці і іншыя сгаронкі... Дзе... Дабро... Святло... Сапраўдныя сябры... І жыццё доўжыцца гэтым...

# ЗДЫМАК

Ён гаварыў пра Бога. У інтанацыях маналогу-споведзі. Хаця сам не верыў ні ў Бога, ні ў д’ябла, а толькі ў свой шчаслівы шанц. Скарыстаць гэты шанц ён умеў — здабыўшы, выцарапаўшы з горла.

Ён быў пестуном выпадку. І тыя выпадкі прыспешваў, прыстасоўваў, выкарыстоўваў. Абставіны — таксама. Гістарычныя, арганізацыйныя, побытавыя. Ён меў амаль усе званні і ўзнагароды, якія мог мець мастак у яго краіне. Персанальныя выставы былі для яго з’явай звычайнай. Ва ўсе часы. Ён умеў, не выдаючы артадоксам, балансаваць паміж уладай і калегамі, крытыкамі і пакупнікамі, чыноўнікамі і выкшталцонымі наведвальнікамі майстэрняў і прэзэнтацый. Ён умеў падабацца і так званаму масаваму гледачу. Любіў выступленні, сустрэчы, інтэрв’ю.

Знешне ён таксама трымаў сябе паміж тыповым багемным персанажам і афіцыйнай асобай. Не пінжак, а камізэля, аднак не з якога аксаміту або вельвету, а з мяккай воўны добрага гатунку. Кашуля-апаш і аднакалёрная хустачка на шыі.

У гэтай невялікай студыі ён апынуўся не ўпершыню. Любіў яе — ніякіх навацый, утульныя фатэлі, паліцы — ці то з кнігамі, ці то з імітацыямі іх. У маніторы яны добра глядзеліся - ён і жанчына, што брала ў яго інтэрв’ю. „Трэба будзе нейкае „дзейства” з ёю вызначыць у фільме, што збіраюцца рабіць пра мяне”, — падумаў ён, слухаючы чарговае пытанне жанчыны. Прыгажуня... Шэрыя халаднаватыя вочы, тонкая талія, выдатная пастава! Якая натура была б! Але гаварыў ён тымчасам пра Мікельанджэла, Рафаэля, Лазара Богшу, пра сваё падарожжа ў Іерусалім, пра сваё разуменне Пісання (чытаў некалькі дзён кніжкі, якія падрыхтавала яму жонка - лепшай сакратаркі не знойдзеш!)

— Дзякуй Вам за змястоўную гаворку! — пачуў ён. Ён падняўся з фатэлю і карцінна нахіліў галаву. Ведаў, што гэты рух адпрацаваны ім бездакорна.

— Выбачайце, мне здаецца, наша супрацоўніцтва павінна мець працяг, — ён крануў журналістку за лакаток.

— З задавальненнем, — не зусім у лад адказала жанчына. — Дарэчы, я знайшла ў нас у архіве некалькі здымкаў, якіх, магчыма, няма ў вас. Зірніце.

— Гляну, — весела адказаў ён, не адрываючы вачэй ад выразна падкрэсленай вопраткай постаці жанчыны.

... У рабочым пакоі інтэрв’юеркі нікога не было, і ён, гледзячы жанчыне ў вочы, спакойна давёў: — Распачынаюць здымаць фільм...

Біяграфічны... Пра маю сціплую персону... Будуць здымкі ў Італіі, там я некалі стажыраваўся... І там цяпер жыве мой даўні сябар...

— О-о-о! — з цікавасцю паглядзела на мастака жанчына. — Але — вось здымкі.

Яна адчыніла шуфляду стала і дастала некалькі здымкаў у канверце, потым пачала яшчэ нешта шукаць у шуфлядзе. З яе рук выпаў канверт і з яго паляцеў на падлогу фотаздымак дзяўчыны ў жакейскім убранні. Яна трымала за аброць прыгожага каня. Твар — з выклікам і хітрынкай, а конь ганарліва косіць вокам.

Ён пазнаў дзяўчыну. Не ведаў, што яна захаплялася конным спортам. Затое памятаў, што яна была некалі знакамітая. Яе раманс „Вясновы чар” ледзь не кожнага дня выконвалі па радыё, спявалі па ўсёй краіне, песні на яе словы лічылі за гонар пакласці на музыку кампазітары, выходзілі кніжкі яе вершаў. Яе паэзіі — хутчэй так...

Ён загарэўся быў рабіць яе партрэт. Паводле ўласнай ахвоты. Але яна прыходзіла пазіраваць, не выказваючы аніякай зацікаўленасці, пазней некуды з’ехала, потым у яго з’явіліся важныя заказы, трапілася цікавая творчая вандроўка на Поўнач. Партрэт так і застаўся няскончаны.

Паэтэса, здаецца, не стала горш пісаць, але былой славы ўжо не было. Не надарылася ў яе і прэмій, ганаровых званняў. Характар быў ганарлівы, язык — што нож востры. І неяк, пару год таму, яна нечакана патэлефанавала яму. Ён стаўся на чале аднаго, толькі што арганізаванага фонда. І фонд часам размяркоўваў гранты творчым асобам. Яна прасіла паспрыяць... Трэба было хоць крыху ведаць яе, каб уявіць, што гэта для яе — прасіць... І ён паабяцаў. І не выканаў просьбу. Спатрэбіўся грант сыну ўплывовага чалавека, грошы — даўняй пасіі, яшчэ нешта некаму... Адным словам, паэтэса выпала з-пад яго ўвагі. Больш яна не тэлефанавала... — А, гэта не адтуль, — нібыта папрасіла прабачэння тая, што сядзела побач з мастаком.

— А адкуль, дарэчы?

— Ведаеце, — неяк без ахвоты пачала журналістка, — я рабіла шэраг інтэрв’ю: хіты даўніх год, бестсэлеры даўняга часу, самыя касавыя фільмы...

— Наўрад ці яе рамансы — хіты...— пачаў было ён. — Ну, не ў тым справа, — заспяшалася жанчына, — потым яна прыйшла са сваёй новай кнігай і гэтым здымкам...

— Удалы здымак... — Магчыма, — жанчына пачала вымаць з пульхнага канверта здымкі, — а вось тое, што павінна Вас цікавіць.

Ён перабіраў адбіткі:

— А што тая серыя перадач?

— Хутчэй за ўсё адыдзе ў небыт разам з яе героямі, — паспешліва адказала жанчына, — няма сродкаў.

— Та-а-к… — працягнуў ён: і нельга было зразумець — шкадуе ён пра тое ці не.

Ён зноў уважліва паглядзеў на жанчыну:

— Вялікі дзякуй. Я магу ўзяць — зрабіць копіі?

— Яны ўжо ў Вашым канверце.

— Дзякуй за ўвагу, — ён шматзначна паглядзеў жанчыне ў вочы.

— Стамілася, — неяк утульна, зусім па-хатняму пацягнулася яго інтэрв'юерка.

— Я закажу таксоўку.

— Не трэба. Мая хата побач.

— Ну, то ў нас будзе невялікі шпацыр? Перад вялікімі вандроўкамі?

— Не варта загадваць, — халаднавата адпрэчыла жанчына. — Пайду вазьму яшчэ адзін канверт.

Калі яна выйшла, мастак зноў пачаў перабіраць фотаздымкі — здымкаў жанчыны з конем было два. Адзін з іх ён паклаў у стос сваіх адбіткаў.

Жанчына прынесла некалькі прыгожых, вялікіх глянцавітых канвертаў. Паклала канверт са здымкамі ў адзін з іх. Мастак паспрабаваў засунуць канверты за штрыфель паліто, але журналістка занепакоілася:

— Давайце мне ў сумку.

На вуліцы падаў лёгкі, пушысты снег. Яны перакідваліся фразамі, што не мелі значэння і раставалі ў паветры, як тыя сняжынкі.

Жанчына спынілася каля дома, у якім на першым паверсе прыветна свяціў вокнамі гастраном.

— Вось я і прыйшла, — жанчына падала яму канверт, і з яго выпаў фотаздымак паэтэсы.

— Даруйце, не ўгледзела, — голас жанчыны набыў жорсткія ноткі.

Яна падняла здымак і кінула яго каля сметніцы.

… Мастак доўга развітваўся з інтэрв'юеркай, потым вярнуўся, каб падабраць здымак, але яго ўжо не было. Знік.

Мастак пайшоў на тралейбус. Ён не ўмеў і не хацеў вучыцца вадзіць машыну або заводзіць шафёра. З яго пасмейваліся, аднак ён упарта ціснуўся ў грамадскі транспарт і выкідаў грошы на таксоўкі. Не даходзячы да прыпынку, ён ускінуў руку перад таксоўкай і праз некалькі хвілін быў дома.

А ў сне бачыў паэтэсу на тым самым прыгожым кані, што на здымку. Яна была маладая, весела смяялася і гарцавала-гарэзавала на

тым кані, скакала па кругу, а ён стаяў і ніяк не мог выйсці з таго кола.

... Ён рыхтаваўся ехаць у Італію, бегаў з паперкамі, каб выправіць візу, нешта збіраў, некуды званіў, добра забыўся пра тое інтэрв'ю, а тым больш пра той фотаздымак. І неяк, ускочыўшы ў маршрутку побач з кіроўцам, проста ўпёрся вачмі ў фотаздымак: дзяўчына ў жакейскім уборы глядзела проста ў вочы мастаку, а прыгожы конь касіў на яго незадаволеным позіркам.

—- Адкуль гэта ў Вас? — спытаў ён шафёра.

— А што? Падабаецца?

Мастак заўважыў плямы на здымку. Не інакш, падабраў тады вечарам.

— Ну, — пачаў было мастак.

— І мне падабаецца, — засмяяўся кіроўца. — Дзе Вам выходзіць?

Мастак выйшаў непадалёк ад свайго дома. Зайшоўшы ў хату, ён узяў з паліцы тэлефонны даведнік і набраў нумар.

Ніхто не адказваў. Ён падышоў да кампутара. Нумар тэлефона змяніўся. Ён зноў націснуў на кнопкі.

— А хто гэта? — на яго пытанне адказаў пытаннем малады жаночы голас.

— Даўні...— ён запнуўся: знаёмы? На тым канцы провада яму паспешліва адказалі:

— Яна памерла два гады таму, — і павесілі трубку.

... Яна была маладзейшая за яго гадоў на пятнаццаць, калі не на ўсе дваццаць...

Ён паглядзеў у люстэрка — на свой светлы, маладжавы твар. Узяў нататнік:

— Спадзяюся, Вы памятаеце пра нашу дамову? Праз два месяцы пачынаюцца здымкі ў Італіі... Я спадзяюся на Ваш у дзел...

*Часоп. „Дзеяслоў", 2005, № 1.*

## МАЭСТРА ЛІСТАПАД

### *Абразок кірмашовага часу*

Як вы лічыце — дзе ў нашым будынку самыя адукаваныя людзі?

А офісаў у нас — відзьма-невідзьма. Ну, там больш вонкавы прыкід — шціблеты, хоць глядзіся ў іх, фрызуры модныя, у каго валасы на галаве ёсць, гарнітурчыкі — ну, можа, не ад Версачы, але і не з кітайскага шырпатрэба. Ну. там — аксэсуары: барсэтачкі, партманэ.... Гальштукі... Кабеткі імкнуцца пабольш распрануцца — топікі, шорты, міні... Я чалавек прасунуты, але часам мне іх шчыра шкада — холад, слота, а яны са скуры лезуць, каб загар прадэманстраваць паўднёвы. Ну, але ж гэта ўсё пустое. Часам што начальнік, што адначаленыя — „хоць круць-верць, хоць верць-круць”, а ні ў плот, ні ў азярод, ні ў добрыя людзі.

Неяк прыехалі да іх — госці? калегі? пакупнікі? — і недзе забавілася перакладчыца. А ў нас тымчасам рабіў толькі адзін ліфт. І ліфцёрка — ліфт яна без наладчыка запусціць не змагла затое выдала на чысцюткай ангельскай, які ліфт робіць, які не. А яшчэ паднялася з пачэснай камандай наверх і там паўгадзіны займала нетутэйшую публіку. Яе суправаджаў вартаўнік Васіль — Васіль Паўлавіч Купрэвіч. З ангельскай ён знаёмы, як большасць аднадеткаў з вышэйшай адукацыяй — „перакладае са слоўнікам” — аднак ён пільна сачыў за кожным словам ліфцёркі, як толькі ўзнікала паўза, ён важка сведчыў: „Йес!” Тая не паспявала ўздыхнуць, як ён упэўнена, як рэфрэн, устаўляў сваё : „Йес!” Хто-небудзь з гасцей кідаў на яго вокам — і Васіль цвёрда і з выглядам даверанай асобы, што прадстаўляе не толькі ўстанову, але і дзяржаву (не менш), рубіў: „Йес!” Васіль Паўлавіч абшастаў адну шостую зямной кулі ў асноўным па маланаселеных мясцінах і па тых, куды людзі, можа, калі і трапнялі, але следу свайго не пакідалі. Геолаг. Здаецца, ці не кандыдат навук. Тут пра сябе ніхто асабліва не распавядае, ды і часу няма: змену здаў, змену прыняў. Сітуацыя штатная. А калі нешта недзе прарвала — то батарэі, то каналізацыю, дык доўга пра тое не расказваюць, найбольш выдаюць коратка і найбольш з таго лексічнага раду, што незадаўга звалі нецэнзурным. Цяпер цэнзуры няма... Падобна, і словы — любыя і ў любых абставінах — цяпер могуць ужывацца. І ўжываюць. Наша ліфцёрка і тут была віртуозам.

А Васілю Паўлавічу, кажуць, няма роўных ў разгадванні красвордаў, у спрэчках з начальствам, у наладжванні сувязяў з іншымі „пунктамі” ахоў.

Яго змяняе Пятро Міхайлавіч Мядзведзеў — былы падводнік. Каўтаранг — капітан другога рангу. Заядлы рыбак. Усё па вугра на Нарач „сплывае”. Рыбачыць і ўлетку, і зімою. На машыне ганяе, што прафесійны гоншчык. Не тое што адстаўны падпалкоўнік Падгайны — той над сваімі „коламі” трасецца, што кўрыца-квактуха над яйкамі. І ўсё імкнецца каманды выдаваць: прыбіральшчыцам, хаця не мае над імі аніякай улады, электрыку, сантэхніку... Тыя — хто агрызаецца, хто пасмейваецца, хто — не звяртае ўвагі. Сабака брэша — вецер носіць.

Электрык Юрык — хаця Юрыку таму даўно шэсцьдзесят з добрым гакам, нават ці не над семдзесят — і шавец, і кравец, і стругаль, як кажуць. Ён і дворнікам працуе, здаецца, і не толькі ў нас. Ходзіць ён зазвычай у добра падношаным пінжачку, у пацёрханых джынсах... А тут выдалася нейкая нагода... Высветлілася, што Юрык — блакаднік, з Піцера. І выклікалі яго на нейкую імпрэзу. І адразу адтуль ён з’явіўся на працу. У чорным гарнітуры, з гальштукам „бабачка”. А дзень выдаўся ветраны, восень ужо ўваходзіла ў апошнюю фазу — лісця, што табе карнавал, восеньскі фэст. І Юрык — у гальштуку-„бабачцы” — узяў мяцёлку і пачаў месці двор. Уяўляеце? Хоць ты ў кіно здымай. А напрыканцы дня, як начальства сышло дадому амаль з усіх кантор — пардон, офісаў, то Юрык пад гітару з рэпертуару Вярцінскага томна так выводзіў... „У бананава-лімонным Сінгапуры...” Што ты зробіш з каханай бядою... З тае пары яго пачалі клікаць: „Маэстра Лістапад”. А Васіль Паўлавіч неяк на тую мянушку ўсміхнуўся і з добрай доляй іроніі кінуў, нібыта рэпліку ў бок у спектаклі: „Усе мы тут — Лістапады...”

Уладзімір Анціпавіч — той адразу відаць, што настаўнік. Сухаваты, падцягнуты, строгі. Матэматык. Кабеткі з розных паверхаў часам да яго бегаюць — як не могуць „выдаць” „хуткую” дапамогу сваім дзетухнам.

А Ягор Панкратавіч, хаця і эканаміст, чалавек гаваркі, жвавы, таксама, як і падводнік, зацяты рыбак. Калі жонка ад’язджае куды, ён прыходзіць дзяжурыць з сабакам. Спраўны такі, разумны спаніэль. Падабраў ён яго недзе на вакзале.

Са мною ў змене — Аляксандр Іванавіч — інжынер. Былы вядучы інжынер. Хаця — ўсе тут былыя. Як пэўніць наш геолаг — Лістапады. Акрамя мяне. У мяне пакуль няпэўная перавага — будучыня. Усё наперадзе.

Юрыст. Пакуль я вывучыўся, тых юрыстаў, што дроў у лесе. Але нешта вымалёўваецца ў адной з фірм. Пакуль мы працавалі па адным, я сёе-тое для іх рабіў. На месцы. І цяпер бы мог. Але шэф не хоча лішніх вачэй.

Так што чакаю. Яшчэ паўгода і „корачкі” ў кішэні. І бывай, капцёрка. Наш надзейны мужчынскі хаўрус. Жанчын у нас не бяруць. Былі тут дзве. Адна часова, на падменах, пакуль дзяжурылі па адным — падчас адпачынкаў прыходзіла. Другую ўзялі на сталую працу, але нешта не дагадзіла нашаму начальніку і той, як толькі кабета зачыніла за сабою дзверы, паведаміў, што цвік увагнаў: „Больш жанчыны сюды — ні нагой. Ну, ліфцёрка — гэтая хай сабе кісне. А больш не.” Як сталі дзяжурыць па дваіх, аформіліся яшчэ двое: адзін нейкі былы начальнік з гандлю. Кажуць, тры гады чакаў гэтага, ці такога ж, месца працы. Перад тым, як выйшаў на пенсію, заняўся было нейкім прадпрымальніцтвам, ажно ледзь не пабачыў неба ў клетачку. Дзіўна — пакуль цягнуліся разбіральніцтвы і ён не страціў і тое, што набыў, і тое, што ўвогуле меў, з’явіўся закон, паводле якога ўсё, чым ён займаўся, вызнавалася ўжо не спекуляцыяй, а бізнэсоўствам, аднак ахвоту да прыватных спраў у яго адбілі. Прыйшоў да нас і нейкі практыкуючы бізнэсовец: каб мець стаж працы ў дзяржаўнай установе. Усе з вышэйшай адукацыяй.

Так што ў нас самы высокі адукацыйны цэнз. Два кандыдаты навук — як высветлілася, яшчэ і эканаміст. Толькі я пакуль не маю дыплома.. Атрымаю. Спадзяюся, недзе буду рабіць. Да пенсіі мне яшчэ так далека, што і мысліць пра тое няма ахвоты. Але часам крадзецца думка — а што станецца, калі я перасягну тую малацікавую ўзроставую рысу? Сёння для мяне мая „пасада” — так, заробак у сямейны бюджэт. Несур'ёзна падрабляю. Магу і яшчэ недзе ўладкавацца. А цікава — яны? У рэкламах працадаўцы найбольш указваюць — да 45 гадоў. А то і менш.

У офісах нашага будынка — таксама... Аднак самыя адукаваныя людзі — ў капцёрцы. Не даеце веры?

## INTE, DOMINE, SPERAVI!..

„Шлях Твой у мора, і сцежка Твая ў водах вялікіх...”

Словы гэтыя ўзніклі ў памяці Яўгена нечакана, раптам. Яны не гучалі, не выяўляліся знакамі пісьма — яны прасякалі свядомасць.

Пазней Яўген успрымаў гэты момант як перасцярогу, напамін. Згадку. Хаця самі словы не мелі ў сабе трагічнага сэнсу.

Тады ж ён знайшоў псальмы з гэтымі словамі, прачытаў яшчэ некалькі псальмаў — і адклаў кнігу. Апошнім часам, куды б ён ні выпраўляўся, браў з сабой гэтае бабчына Берлінскае малафарматнае выданне Бібліі ў скуранай вокладцы, які-небудзь томік паэзіі ды яшчэ якую кніжку-навінку або часопіс.

Шлях Яўгена быў сапраўды да мора, але — „воды вялікія”... Не, гэтае ўрачыстае высокае наканаванне не стасавалася ні з яго легкадумным настроем, ні з мэтаю вандроўкі. Адпачынак! Вольныя дні... Пляж... Мора... Горы...

Яўген любіў выпраўляцца ў адпачынак на цягніку, а вяртацца — самалётам. Амаль двое сутак у купэ вагона — адаспацца, адысці ад мітусні будзённых дзён, а на поўдні адразу ўвайсці ў рытм амаль што іншага існавання, забыўшыся на месяц пра справы, клопат, мітусню.

Душа захацела марскога прастору...
Да мора!
Лета прайшло, а другое не скора...
Да мора!
Як быццам там іншыя шчасце і гора
Да мора!
„Як быццам там іншыя шчасце і гора...”

Цяпер для Яўгена відавочна здавалася рэальным толькі шчасце-праект яго, Яўгена Тарыча, перамог у конкурсе. І універсітэцкі комплекс, паводле ягонай задумы, увесну пачнуць будаваць. Пасля зацвярджэння рахункаў і ўжывання канкрэтных будматэрыялаў.

А цяпер усё прэч! Да мора! Да мора! Да мора!

Яўтену здавалася, што нават зоркі, якія ён бачыць з прыапушчанага вакна вагона, з таго россыпу ў небе, які на яго радзіме завецца птушыным шляхам, усміхаюцца яму, не проста мігцяць, а падмігваюць, як асобе даверанай, ласкава і па-свойску. Вецер таксама прыветна лашчыў, свежа абвяваў, даваў адчуць хуткасць руху цягніка — Яўген ледзь не паўночы прастояў у калідоры, высунуўшы галаву ў вакно. У купэ з ім ехала маладая пара — яны былі цалкам занятыя сабой. І дэмабілізаваны з войска хлопец — той амаль увесь час спаў.

Яўген частаваў іх вішнямі — прыдбаў на нейкай станцыі.

Селішча, у якое Яўген прыехаў адпачываць, яму некалі адкрыла яго маці. Некалькі вуліц, некалькі пансіянатаў уздоўж мора, былы дом паэта, якога Яўген любіў. Першым разам яны прыехалі сюды ў чэрвені — на палях цвілі макі, у пасёлку тамарыск, турысты-дзікуны яшчэ не прызвычаіліся атайбоўвацца тут. Цяпер людзей было поўна. Пік сезона, ліпень. Селішча было падобнае на мурашнік, а ў некалі зусім пустынных затоках стаялі, адзін пры адным, намёты і на іх красаваліся лозунгі, надпісы, накшталт: „Мой дом — твой дом: заходзь!"

Пакойчык у мансардзе ён замовіў загадзя — неаднаечы прыпыняўся тут. З харчаваннем сталася горш: чэргі цалюткі дзень. Яўген не хацеў псаваць адпачынак у натоўпах каля кавярняў-ядальняў. Дамовіўся са скарбнікам-крамнікам у адным з пансіянатаў, накупіў з яго дапамогай кансерваў і кіўбас (у крамах з гэтым былі праблемы).

Зранку Яўген выпраўляўся ў горы: Крымскія горы — не Каўказ, можна шпацыраваць аднаму. А часцей — ён прыходзіў да мора. Ранелька... Калі сонца ласкавае, ціхае. А мора свежае, прахалоднае.

Яўген не проста адчуваў гэтыя раніцы, холад прыбярэжнага жвіру, гаючае даткненне марской хвалі, яшчэ не пякучае, пяшчотнае адчуванне сонечных промняў. Ён усведамляў усё гэта, не проста жыў — перажываў жыццё, яму быў дарагі гэты працэс: усведамленне промняў, хваляў, каменьчыкаў жвіру. Для яго мелі значэнне не толькі самі па сабе рэчы, з'явы, але і канцэпцыі рэчаў, з'яў.

Яўген вітаўся з некалькімі сімпатычнымі дзяўчынамі, перасмейваўся — перамаўляўся словам, але прызначаць ім спатканні, шукаць сустрэч ён не хацеў. Ён ужо меў на сваім рахунку курортныя знаёмствы — потым яны пакідалі адчуванне незадаволенасці сабою і іншымі, адчуванне віны... Не таму, што ён злоўжываў чыім даверам, а таму, што дзяўчаты відавочна чакалі працягу знаёмства. Да таго ж цяпер у горадзе была адна асоба... Яна то пакуль што не ведала пра сур'ёзнасць яго інтарэсу. А можа, і здагадвалася. У кожным выпадку, Яўген лічыў, што ўсё наперадзе. І логіка, і алагічнасць пачуццяў. Пакуль што, на гэтай дыстанцыі жыццёвага маршруту, яму падабалася мілая гульня — выпадковых і не зусім выпадковых сустрэч. І безумоўна, спеўна-танцавальная стыхія на ўзбярэжжы. Ні вечарынамі, ні танцамі тое дзейства назваць было нельга. Проста на асфальтаваную вуліцу, дзе з аднаго боку былі пляжы і мора, з другога — будынкі пансіянатаў і парк, на вечаровы шпацыр выходзіла моладзь. Гучалі гітары, спявалі — сола і гуртам. Найбольш песенькі сучасных бардаў і менестрэляў, саюзна-тутэйшых і замежных. Танчылі пад тыя ж гітары і транзістары гуртам і кожны сам па сабе.

На нейкія хвіліны Яўгену здавалася, што ён зноў студэнт і вакол яго студэнцкі асяродак незнаемых хлопцаў і дзяўчат. „Qaudeamus igitur, juvenes dum sumus!”[1]

Ад асабістага студэнцтва Яўген адышоўся на дзесятак год ды і з гакам. Аднак маладосць яшчэ відавочна не пакінула яго: ён кожным мускулам адчуваў сваю фізічную моц, сваю сувязь з чараўніцай Натурай. І не менш выразна вызнаваў падрыхтаванасць свежага і сталага розуму: ствараць, успрымаць, знаходзіць.

Ішлі дні адпачынку... Яўген зноў і зноў кідаўся ў прахалоду ранішняга мора, потым да знямогі пёкся на сонцы. Надвячоркам ішоў згуляць у пінгпонг. Да корта вялікага тэнісу турыстам вольным было цяжка дабрацца: усё па гадзінах распісвалася ўладальнікамі пуцёвак. Яўген не перажываў. Яму хапала і настольнай гульні. Падабаліся спакойныя, нібы прычэкваючыя ўдары шарыка, і рэзкія, з падкручанымі падачамі, і вызначальныя, жорсткія хлапкі-ўдары. Любіў ён у гульні і гэтае: адначасовы напал эмоцый і халодны кантроль, разлік — знайсці слабыя мясціны суперніка, вызначыць тактыку і стратэгію гульні.

Яўген адчуваў сябе на жыццёвай дыстанцыі ўпэўнена, цвёрда і — светла. З нейкай пары ён, праўда, бачыў нейкія недарэчныя сны: то ён блукае па лабірынце, то не можа знайсці выхаду з гатэлю, то ідзе па бясконцай лесвіцы, то апынаецца ў замкнёнай прасторы, адкуль няма выхаду. Прачынаючыся, Яўген адразу гнаў ад сябе гэтыя відзежы: дурны сон — гэта толькі дурны сон .

... Той раніцай ён, як кожны дзень адпачынку, выйшаў з дому рана, прайшоў паркам і адразу кінуўся ў ваду. Плыў да сонца. І раптам яго наскрозь працяў боль. Яўген рыўкамі хутка дабраўся да берага і лёг на яшчэ не прагрэты сонцам жвір. Потым ён доўга ляжаў, толькі апоўдні пайшоў з пляжа. Адстояў чаргу ў кавярні. „Падобна, трэба мяняць расклад”, — мільганула ў галаве думка.

... Назаўтра, роўненька ў тую ж гадзіну, боль прыйшоў ізноў. І пачаў вяртацца кожнага дня. Пунктуальна і дакучліва.

Яўген паехаў у Сімферопаль набыць білет на самалёт. Там, у селішчы, дзе ён атабарыўся, у касы было не дастаяцца. “Куплю білет у любым накірунку”, — і такі тэкст можна было прачытаць сярод розных аб’яў каля касы. У Сімферопалі за адным скрыпам Яўген купіў абязбольваючае і адчуў сябе лацвей.

Увогуле Яўген належаў да тых шчаслівых людзей, што ніколі не хварэюць. Хіба што лёгкая прастуда. Ды і то было ў дзяцінстве. Пры-

---

[1] Qaudeamus igitur, juvenes dum sumus! (лац.) — Давайце весяліцца, пакуль маладыя!

ходзіла іх участковая лекарка, весела гаварыла: „Лячыся — тыдзень, не лячыся — сем дзён”, выпісвала рэцэпты, а потым выпраўляла яго на рэнтген. Звычайна ніякіх ускладненняў пасля хваробы не было. І гэтыя болі Яўген, аптыміст паводле натуры і жыццёвых абставін, успрыняў як нейкі выпадковы збой. Пабаліць — і адступіцца. Прыедзе дадому, паходзіць у дыетычную сталоўку — і ўсё мінецца.

Звычная будова быццям не парушылася, лічыў Яўген, недарэчнасць, выпадковасць, здарэнне. Крыху цярпення — і ўсё наладзіцца. Усё будзе надзейна, шчасна, справядліва.

Да ўрача Яўген усё ж завітаў. Змучаны немалады мужчына падазрона глянуў на Яўгена — загарэлага, выспартаванага, румянага, выпісаў накіраванні на аналізы, а праз два тыдні рашуча прамовіў, гледзячы на цвік, на якім матлялася яго кепачка: „Не піць. Не курыць. Прытрымлівацца рэжыму”.

Яўген хацеў запярэчыць, што зроду не запаліў ніводнай цыгарэты: спорт не даваў. Што п’е толькі з якой нагоды, аднак кінуўшы вока на нясвежы твар эскулапа і такі ж нясвежы халат, моўчкі зачыніў дзверы кабінета. І паліклінікі. Яму здавалася — калі не назаўсёды, дык надоўга.

Рэжым... Рэжыму падчас працы, асабліва як рабіў праект універсітэцкага гарадка, сапраўды не было. Ды і ў студэнцтве таксама. Ночы — за кнігай, чарцяжамі, на вечарынах. Чорная кава. Яшчэ якое пітво... Ранкам — бегма. На працу. На лекцыі.

Яўген зрабіў расклад. Прытрымлівацца яго, аднак, не спяшаўся. Можа, таму, што памятаў позірк урача з паліклінікі, у якім Яўгену чыталася: „Малады сімулянт”.

... А болі пачалі вяртацца. Ураніцы. Як бы хто будзільнік завёў. А потым пачалі з'яўляцца і пасля абеду — гадзіны праз дзве.

Незадоўга перад Новым годам яго прыхапіла зусім добра. Кроў — горлам. Дактарыца на „хуткай” прыехала маладая, сімпатычная. А Яўген ці не ўпершыню ў жыцці не мог і не хацеў гаварыць.

З бальніцы ён пазваніў свайму начальніку, папрасіў нікому асабліва не дакладваць — дзе, што, як. Яўген не хацеў спачуванняў, перадач. Наведванні былі забароненыя — ў горадзе надарылася эпідэмія грыпу і шпіталь трымаў прынцып: ніякіх асабістых стасункаў. Каранцін.

...Пакой у шпіталі вялікі, на 12 ложкаў. Уздоўж сцен і пасярэдзіне пакоя. Яўгену пашанцавала: ложак быў каля сцяны і ля вакна. Калі Яўген ляжаў, відаць было неба і голая галіна дрэва. „Цвердзь вышыні”...

З сабою Яўген узяў Біблію, малітоўнік і томік Гегеля. Каб не раскісаць і не размягчаць мазгі лёгкім чытвом. Суседзі па палаце, паспытаўшы, ці нельга зірнуць, пасля некалькіх старонак вярталі не толькі класічнага філосафа, але і Святую кнігу. На шэсцьдзесят трэцім годзе афіцыйнага атэізму людзі былі мала падрыхтаваныя для такога чытання. На яго глядзелі нават не як на дзівака. Як на вар'ята. Але яму было ўсёроўна. Хай сабе.

Ён апынуўся сам-насам са сваім болем, адчуваннем агульнай нямогласці. Але гэта было не самае горшае. Самае горшае было ў вялікім, голым пакоі, бясколерна белым ад бруднавата-белых сцен і ад халоднага сонца, што залівала пакой сталёва-пакутным святлом праз шырокае, на ўсю сцяну, вакно. гэты варожа-няўтульны квадрат пакоя, з нейкімі металічнымі банкамі, з паблісkваннем інструментаў... Працэдуры-катаванні... Пасля маніпуляцый у гэтым пакоі Яўген ляжаў што мёртвы на ложку, абкладзены ільдом. Больш балюча за гэтыя працэдуры — яму ставілі дыягназ — былі толькі гадзіны пасля пяці апoлудні. Маці ўзяла адпачынак і кожнага дня стаяла пад вокнамі: каранцін ёсць каранцін. Маленькая, неяк адразу пастарэлая... Казалі — тымчасам — за вокнамі трыццаць градусаў марозу...

Яўген адчуваў нібыта віну перад ёю. Вось ён, малады, павінны быць апірышчам, абаронцам, ажно стаіць тут, у блазанскім — ці арыштанцкім? — уборы: няўклюдны, бездапаможны, залежны... Як у турме... Амаль...

Дзень пры дні — што адзін бясконцы дзень. Дзень бездань. Праверка тэмпературы, уколы, абход, паход у „катавальню”, зноў уколы...

... Набліжаліся Каляды... Надыходзіў Новы год...

Нараджэнне Хрыстова ў яго атэістычна-хрысціянскай краіне не адзначалі: рабочыя дні. Аднак маці прынесла ў перадачы галінку елкі, свечку, свежаспечаны хатні пірог, які спажылі ўсе, акрамя Яўгена. Рэжым... Дыета... І Яўген ужо добра ведаў, што яго чакае, калі ён спакусіцца на матчын выраб. Яна гэтага не ведала... Ёй ён увогуле нічога не гаварыў і не пісаў. Жарты, агульныя словы...

Новы год быў чырвоным днём календара, ды яшчэ побач з выхадным. У шпіталі дзяжурылі медсестры і адзін урач ці не на ўвесь корпус..

...Заставалася некалькі гадзін да Новага года. Вынікі з той пагрозлівай установы ў Сасняках павінны былі прыйсці толькі 5-га студзеня. Анкалогія... Слова гэтае і ўсё, што было за ім, аддзяляла Яўгена не толькі ад большасці людзей, але і ад хворых. Як і яшчэ адно, безнадзейнае слова: жорсткі, што разак гільятыны, лацінізм — кан-цэр.

Хаця чаканне — ўсё ж надзея... Няпэўнасць — яшчэ не прысуд... Як там у эпікрызах пішуць? Добраякасная... Добрай якасці хвароба?

Два ці тры дні ўрачоў не будзе. Урачы... Эскулапы... Лекары... *Врачеватели...* А priori ён ставіўся да іх з павагай. Цяпер гэтая павага патроху не тое каб знікала, але давер відавочна змяняўся сумнівам. Асабліва пасля таго, як загадчыца аддзялення, што ставілася да Яўгена вельмі ўважліва — такі малады пацыент з нядобрымі сімптомамі. Неяк у гаворцы высветліла наяўнасць у яго пішучай машынкі — дэфіцыт, улады не падтрымлівалі магчымасці насельнікаў карыстацца друкуючай і множнай тэхнікай: мала што крамольнае накрэмзаюць... Дык вось гэтая доктарка папрасіла, каб ён надрукаваў яе артыкул для навуковага часопіса. Старонкі ён узяў адразу — спадзяваўся: доўга тут не затрымаецца. Зірнуўшы на тыя старонкі, ён ледзь не адразу займеў ахвоту бегчы са шпіталю. Загадчык аддзялення... І голыя лічбы... Няма ніякіх, нават самых просценькіх, параўнанняў, супастаўленняў, не кажучы пра сур'ёзны аналіз і высновы. Дзе тут тая навука? Ці не паводле такой навукі яго лечаць?

... Яўген сядзеў перад тэлевізарам — разам з нейкімі гаротнікамі з іншых палат. На экране дзёрзка фехтавалі мушкецёры, потым яны жвава, скакалі — і разам з імі нібыта скакала і песенька, што надоўга сталася шлягерам. „Пара-пара-парадуемся на сваім вяку...”

„Парадуемся...” Яўген глядзеў на экран, на панылыя сцены калідора, на сваю палату з шырока расчыненымі дзвярыма. На лісткі „навуковых” штудый лякаркі... Жытло ў ноч на Новы год... Хаця справа не ў даброце жытла... Ёсць жа недзе шыкоўныя хоспісы, але ён не ўпэўнены, што пацыенты — смяротнікі — адчуваюць там сябе лепш. А ўвогуле... Вынікі з Саснякоў яшчэ не прыйшлі... З ім — шаноўная пані Надзея...

Но ты учись вкушать иную сладость,
Глядясь в холодный и полярный круг.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
И к вздрагиваньям медленного хлада
Усталую ты душу приучи,
Чтоб было здесь ей ничего не надо,
Когда *оттуда* ринутся лучи.

Не, яго душа яшчэ не стамілася. І яму шмат чаго трэба зрабіць *здесь*. Даведацца. Прачытаць. Праслухаць. Пражыць. Перажыць. Трыццаць чатыры гады. Безумоўна, не так мала. Але і не так многа. Людзі да гэтай даты паспявалі пакінуць след для чалавецтва. Ён не геній. Аднак ведаў, што дар жыцця яму яшчэ трэба спраўдзіць.

„Улюбёнцы багоў паміраюць маладыя...” Сур’ёзная сентэнцыя... А мо, жарт камедыёграфа? Што ён там меў на ўвазе — гэты Плаўт? І колькі, дарэчы, ён пражыў сам?

Сёння Яўген думаў пра сябе нават крыху адстаронена. Як быццам гэта не ён, Яўген Тарыч, чакае тут свайго прысуду ў Новы год, а нехта іншы. І гэта нехта іншы, а не ён, зусім нядаўна быў злосны на ўвесь свет. За што? Чаму? Навошта? Чым ён правініўся? І гэта не яму, а таму раз'юшанаму чалавеку хацелася ўсё крушыць, рушыць, руйнаваць. З усімі лаяцца. Хаця знешне той чалавек паводзіў сябе прыстойна. Дзякаваў, маўчаў, трываў.

Сёння Яўген быў спакойны. Адстаронена спакойны. Ад лекаў? Ці гэта атрафія пачуццяў? А мо яму прыадчынілася вышэйшая мудрасць?

Яўген ляжаў на сваім ложку і глядзеў на неба ў вакне. У вогуле яму ўяўлялася: ёсць неба фізічнае — атмасфера, стратасфера... Галактыка, іншыя галактыкі... Там самалёты, верталёты, спадарожнікі... І ёсць нябёсы трансцэндэнтныя, мешканне Божае, тое, што нельга спасцігнуць розумам. Хаця, здаецца, калі ён не памыляецца, паводле Пісання, яны — адно, гэтыя нябёсы і неба, і ў бачным адчыняецца таямніца Бога... Таямніца...

Але ці адкрыецца яму таямніца? «Пабачыце неба адчыненым...” Ці гэта датычыць яго?

„Memento more”. — „Памятай пра смерць”,

А гэта хто? Марцыял? І браты-траппісты? Падобна, яны сустракалі адзін аднаго гэтым выслоўем.

Словы абступалі Яўгена з усіх бакоў. Такія ж неадступныя, як боль. Які прыцішваўся, а потым зноў узнікаў.

Смерць — пакаранне... Смерць — збавенне... Не, для яго пакуль пакаранне. Ён хоча жыць. Нават з гэтым болем.

... Дар Жыцця... Магутны Божы Дар... Як ён не заўважаў гэты дар, карыстаўся ім легка, не задумваючыся... Здавалася — ўсё наперадзе. Ці амаль усё. Паспее. Зробіць. Вызначыцца. Вось пад гэтым небам, што там, на волі, выглядае купалам, небасхілам, сутарэннем, скляпеннем нябесным, а тут выдае з вакна толькі часткаю цэлага, але якой жа звабнай часткай! Здаецца, менавіта гэты акраец неба можа сціснуцца. На тыя гады, на дзесяткі гадоў, на якія ён разлічваў... Акраец неба — люстэрка, у якім можа адбіцца пустата... Шагрэневая скура колеру блакіту! Што можа сціснуцца да кропкі... Таямніца таямніц... Нябёсы, што ўмеюць адчыніцца ў ззянні святла...

Калі б не гэтае дрэва без лістоты, колер сённяшняга неба мог быць аднолькава і летнім, і вясновым, і восеньскім... Аднак ад голага дрэва

вее холадам і блакіт пачынае выдаваць шкляна-халодным. А сваё сённяшняе быццё, гледзячы на гэты звонна-халодна блакіт, Яўген пачынае адчуваць не як рэальнае існаванне, а як нейкае падабенства жыцця. Жыцця, сэнс якога ён не паспеў — ці не змог? - спасцігнуць, калі тое ўвогуле магчыма... Ён не паспеў яго і адчуць — у дастасаванні да свету вечных каштоўнасцяў... А да вечнасці можна прыйсці — праз вопыт, памылкі, жарсці, пасіянарны вопыт... Праз пакуты... Тут ён чапляецца за слова. Усё ж, магчыма, Высокай Воляй ён вызначаны да гэтых пакут? І за імі — збавенне? І — дараванне? На гэтай зямлі... На створанай Усявышнім зямлі... І ёсць надзея, „поўная бессмяротнасцю"? І ёсць унутраны вопыт...

„Божа, я не варты, каб Ты прыйшоў да мяне, але скажы толькі слова..." „Я не варты..."

Яўгену хацелася паслухаць музыку. Не шлягеры, не хіты. Шапэна, Баха, Моцарта... Калі ён пойдзе адсюль, дык абавязкова пойдзе ў маленькую краму кружэлак, што за цэнтральным гатэлем і купіць новыя пласцінкі. Ён любіў гэты куток. Можна было прагледзець спісы наяўных пласцінак, можна было проста паглядзець іх, паслухаць... На волі — вырашыў Яўген — ён абавязкова трапіць на бліжэйшы канцэрт. Ды проста паслухае тыя запісы, што ў яго ёсць.

А між іншым. Ён у сваім жыцці слухаў выдатных музыкантаў. Добрую музыку. Колькі момантаў засталося ў яго кантрапунктычным „гукабачанні" быцця! Які чароўны палон „арфічных" узрушэнняў ён перажыў! Ён яшчэ не кахаў — калі не лічыць таго даўняга захаплення адной красуняй з тэатральнага інстытута ды няўдалых раманаў, якія пакінулі ў ім адчуванне перасцярогі ў адносінах да чароўнай палавіны чалавецтва.

Ён бачыў прыгожыя мясціны — ў сваёй краіне, у Саюзе, у замежжы... Ён бачыў у арыгіналах вялікіх мастакоў. Перажыў захапленне імпрэсіяністамі, вялікімі італьянцамі, стрымана-гжэчнымі англічанамі, раскошай гішпанскіх фантазій і калёраў!

Не, ён дарма так енчыць. Калі яго праект усё ж спраўдзяць і ён набудзе рэальнасць, выяўленую ў камені, бетоне, зяляніне дрэў, дык нешта ад яго застанецца на гэтай грэшнай зямлі... і шкадаваць яго будуць, мабыць... Можа, і не такі ружова-малады, але ж, як кажуць, у росквіце сіл... Нехта пашкадуе. Нехта знойдзе ў ім прывабныя рысы... І праз пару месяцаў забудуць пра яго...

А што ж ён? Перад валадарствам сапраўднага? Па той бок часу і бачнасці? Перад вечнасцю і сусветнай прасторай? Ці перад вечным забыццём?

Думкі Яўгена блыталіся, ён выпіў снатворнага і прачнуўся ад таго, што ў палаце дзяжурная сястра запаліла святло.

...Раніца. Будзённы дзень. Тэрмометры, уколы, агляды, працэдуры...

Боль...

Анемічны, бруднавата-белы колер сценаў палаты. Новыя хворыя. Яны прыходзяць... Выпісваюцца... А ён усё застаецца... Хаця ў Сасняк, падобна, не трапіць. Значыць, надзея... Хаця ўрачы загадкава нешта не дагаворваюць. Можа, проста трымаюць таямніцу? Паводле клятвы Гіпакрата? Што там, дарэчы? Ён толькі чуў пра яе. Ніколі не бачыў таго тэкста.

І ўсё ж, вырашыў Яўген, будзем наіўна лічыць, што хвароба XX стагоддзя была блізкая, але не ў сваім праве. У праспекціках, раскіданых на століках хола, захворванні такога кшталту мелі пагрозліва-абнадзейваючы прэфікс перад-.

У шпіталі Яўгену ўсё абрыдла. Ён ужо нават не думаў пра сваю хваробу. Пра яе наступствы. Ён хацеў найперш выйсці за межы гэтай лякарні. Ён усё ж вольны чалавек. І лякарня — не турма.

Лепш яму не стала. Аднак яго выпісалі...

Воля...

Маці, у якой даўно скончыўся чарговы адпачынак, дастачыла да яго колькі дзён за свой кошт і сустракала сына ў яго аднапакаёўцы смачным абедам, да якога ён не дакрануўся. Маці моўчкі прыгатавала яму аўсянку і сказала, што праз тыдзень, мабыць, вернецца дамоў.

Яўген падхапіўся ехаць за білетам.

Гэта было дарэчы. Толькі цяпер Яўген адчуў, колькі часу ён не быў на звычайнай вуліцы, сярод звычайных людзей. Яўген хуценька купіў білет і прайшоў цэнтральным праспектам. Звычайныя людзі... Ён глядзеў на іх і амаль фізічна адчуваў мяжу, што аддзяляла яго ад іх. Яны былі здаровыя... Смяяліся... Складвалі планы на адпачынак... Нікому не было справы да яго...

Яўген дайшоў да парка. Пахла падталым снегам, адчувалася — хутка вясна. Сонца няярка свяціла, дрэвы выпроствалі галіны ў неба, вераб’і нясмелым шчэбетам нагадвалі, што ўжо незадаўга з'явяцца іх суродзічы з поўдня. І ўсё вакол было цалкам абыякавае да яго... „И равнодушная природа...” Усё будзе таксама, калі яго не будзе... Нічога не зменіцца...

І ўпершыню падумалася, што гэта добра. Яго не будзе на гэтай зямлі. А ўсё застанецца. Сонца, дрэвы, паркі, птушкі... Людзі... Хараство... „І пабачыў Бог, што гэта добра...”

Хараша.. Яўген удыхнуў на ўсе лёгкія паветра. Якая прыгажосць... Гэтыя паркі... Яўген любіў іх... Па-над ракой... Цяпер ён асабліва востра адчуваў гэтую красу...

„Пан Божа...” „Адкупіцель мой, вылечы ласкай Духа Святога раны і слабасць маёй душы, даруй мне мае грахі, умацуй мяне ў цярпеннях маіх, адвядзі іх ад мяне...” Яўген задумаўся: „... калі ёсць на гэта Твая воля”.

„Пане Божа, аддаючыся цалкам Тваёй святой волі, прашу цябе...”

„... і малітва веры вылечыць хворага...”

Цяпер Яўген пайшоў бы да святыні... Але ў яго вялікім горадзе не было ніводнага касцёла...

... На працы Яўгена сустрэлі падкрэслена радасна, падазрона ўзрадавана. Ці то шкадавалі яго — яшчэ ж малады. Ці то ўвогуле не спадзяваліся яго больш пабачыць жывым. Можа, хто ўпотай і злацешыўся - перамога на конкурсе не аднаго зайздросніка яму набыла...

... Для сябе ж Яўген вырашыў — і з хваробамі людзі жывуць. Не рэкамендавана. Не пажадана. Лепш устрымацца. Пакіньце надзею назаўсёды... Гэты ўмоўны, але доўгі спіс перасцярог здаваўся яму напачатку прыніжальным, потым ён спакойна перавёў спіс непажаданага ў спіс непатрэбнага, нецікавага, і яму адразу стала спакайней, калі не лягчэй. Ну, што ж...

Ён акуратна трымаўся ўсіх наказаў і прадпісанняў. Урэшце — не вельмі навукова ўталентаваная Лідзія Пятроўна нешта ж кеміла ў практыцы: думаў Яўген... Праз пэўны час Яўгену палягчэла. Былі моманты, калі Яўген пачынаў думаць: „Усё. Przeminąło z wiatrem”. Ён здаровы.

Яўген накінуўся на кнігі. Апантана купляў білеты: у філармонію, у драмтэатры. Хадзіў на балеты і оперы. Нават пару разоў трапіў у аперэту, хаця цалкам гэтае дзейства не вельмі любіў: з імпэтам успрымаў толькі фрагменты — якія-небудзь нумары каскадных пар.

З’ездзіў дадому — маці была ўсцешаная.

... У траўні ўсё пачалося зноў. Ён ліхаманкава кінуўся ў бібліятэкі. Высветліў — усё, што ён прымаў паводле рэкамендацый шаноўнай доктаркі яго — чыста сімптаматычнае. Здымае толькі сімптомы, знакі хваробы, а не лечыць. Як гэта ён так спакойненька даў веры гэтай цётачцы. Бяздарнай. Амбіцыйнай.

Прысуд дактароў быў аднагалосны. Аперацыя. І тэрміновая. Яму адмовілі нават у медыцынскай даведцы ў пансіянат. Ехаць „дзікуном” ён цяпер засцерагаўся...

Але тут прыйшоў у паліклініку новы галоўурач — малады, рашучы, добразычлівы. Ён падпісаў Яўгену запаветную паперчыну. На сваю

рызыку. Не з легкадумнасці. Ён зразумеў Яўгена. Пасля шпіталя, пасля ўсіх згрызот апошняга года тую аперацыю ён бы не вынес нават не толькі фізічна, але і псіхалагічна. Яму быў патрэбны адыход ад дактароў, ад хваробы. Можа, і ад самога сябе.

...На працы Яўгену падкінулі пуцёўку ў пансіянат. У прыбалтыйскі гарадок, куды Яўген аднаечы трапіў на экскурсію. Ён памятаў доўгі пясчаны бераг, дзюны, стрымана-халаднаватае мора. І ўжо ўяўляў сабе радасць раніцы, класічную драму заходу сонца, зоркі над гэтым морам і над гэтымі дзюнамі...

Хвароба адасобіла яго ад людзей. Ён цяпер імкнуўся найбольш быць на самоце.

А між тым распачалося будаўніцтва універсітэцкага гарадка. Аднак ён адназначна вырашыў — паедзе на будоўлю крыху пазней. А ў падсвядомасці сцішылася думка-перасцярога: калі дажыве. Гэтую калючую шэрую думку ён не тое каб гнаў, але выстаўляў ёй заслоны: з дробнага і нядробнага клопату, заняткаў сур'ёзных.

Сам па сабе акт адыходу ўяўляўся яму ў чорных і белых колерах жалобы. Белы-колер каралеускай жалобы? Здаецца, так. А потым — таямніца, якую смяротны чалавек, мабыць, ніколі не зможа спасцігнуць. „ — a światłość wiekuista niechaj im świeci"- „а святло вечнае няхай ім свеціць". Гэтыя словы ён з дзяцінства памятаў. І хаця добра ведаў, што гэта: „святло вечнае няхай ім свеціць", аднак слова „wiekuista", яму здавалася, складвалася з нейкіх агніскаў, выпраменьвала святло, рабіла яго ззяючым, не сонечным і не месяцовым, а менавіта — незямным святлом, святлом сапраўдным — так, мабыць... Зноў жа — ці варты ён таго святла? Але Новы Запавет — закон любові. І нават боязь — гэта ўжо не боязь паганца або атэіста. „Таму ўсе, каго вядзе Дух Божы, ёсць сыны Божыя. Таму што вы не прынялі духу рабства, каб зноў жыць у страху, але прынялі Дух усынаўлення..."

Можа, нешта ад таго, незямнога, святла трызнілася Яўгену ў тым зямным балтыйскім гарадку. Ён памятаў — вада і мора выдавалі нечым адным — акварэльная, пастэльная пяшчота і халаднаватасць. Усё ж разам — неба, мора, пясок адсвечваліся промнямі сонца і выпраменьвалі святло самі.

Яўген прыехаў у гарадок на самым пачатку чэрвеня. І проста акунуўся ў водар будзённага свята вясны, што ўжо пераходзіла ў лета. Сустракалі яго цнатлівыя незабудкі, буяная квецень чаромхі, — яе ўсеахопны, настоены, насычаны, нават канцэнтраваны водар. Потым пачалося суцэльнае панаванне бэзу, а незадаўга да ад'езду быў чуцён вытанчаны пах шыпшыны і будуарна-выкшталцоны пах язмену.

Пансіянат быў нечым накшталт немудрагелістага, але ўтульнага, на старасвецкі лад гатэлю. Толькі жытло.

Усё астатняе заставалася клопатам насельнікаў.

Але нават для Яўгена з яго хваробай харчаванне праблемай не абярнулася. Спецыяльнае меню для дзяцей яго цалкам задавальняла. Калі ён хадзіў па гарадку-парку, дык яму здавалася — яго праект, з іншым, праўда, функцыянальным прызначэннем, у пэўным выглядзе існуе. Дамы сярод дрэў, усё побач, амаль ніякага транспарту: толькі службовы. Сады Акадэміі... Бо Горад Сонца яго не вабіў. Гэта ж пустыня... А сады Эдэма... Парадыз... Аазісы...

Узбярэжжа адразу ўпэўніла Яўгена — цяпер ён адпачываць будзе калі не на радзіме, то сярод гэтых дзюнаў, на гэтым пясчаным узбярэжжы. Нельга на поўдзень, то і не трэба. Тут не толькі не горш. Лепш. Радасці раніцы: свежасць ад лёгкага ветрыка з мора, вітанне няяркага сонца, якое непаспешліва абыходзіць катэджы з чырвонай цэглы, заглядвае ў вокны, не як назола, а як прыветны госць, які завітвае на хвіліну і выкіроўваецца далей — найбольш па вяршалінах дрэў, кустоўя, да званіцы касцёла, да дрэваў і пяскоў узбярэжжа. Тут яно атайбоўваецца надоўга, і нават у полудзень не становіцца дакучнагарачым.

А раніца, якую яно абвясціла, доўжыцца доўга, пацвярджаючы сябе пахам свежай моцнай кавы — Яўген доўга ўдыхае гэты магнетычна-знаёмы водар і заказвае шклянку цёплага малака. Аднак гэта не перашкаджае яго настрою і ён існуе ў гэтай раніцы: купляе газеты, заходзіць у булачную-цукерню, у шырокія вокны якой ласкава глядзіць сонца, прыслухоўваецца да ранішняга покліча званоў. Ідзе да касцёла. Спачатку ён проста заходзіў у святыню, доўга сядзеў, малітоўна думаў,. потым пачаў прыходзіць на Святую Імшу. Мовы, на якой правілі імшу, ён не ведаў. Але згадваў парадак імшы ў іх мястэчку: яго, прыбранага і прычасанага, брала з сабой на Імшу бабуля. У нядзелю. І засталося гэтае адчуванне ранішняй свежасці, урачыстасці, датычнасні да нечага высокага, светлага, да нечага, што нясе ў сабе вечны пачатак. Засталося яшчэ і адчуванне еднасці свежасці раніцы і яснай чысціні Святой Імшы... Раніца пачынаецца гэтай Сустрэчай. І Яўгену здавалася, што ён не тое каб вярнуўся ў дзяцінства, але вызнаў нешта важнае, роднаснае, запаветнае, спаткаўся з умацаванай духоўнай прасторай пачуццяў і відзежаў.

А тыя, што былі побач... Курортнікі... Што было агульнае ў Яўгена з імі — неаспрэчныя перавагі вольнага часу, зацікаўленасць гэтай мясцінай на мапе Еўропы і свету — ў межах прагматычнай, канкрэтнай зацікаўленасці. Большасць купляла і чытала мясцовыя экскурсійныя

даведнікі: гістарычна-геаграфічна-культуровыя, аднак рэальна ўсіх найбольш хваляваў элементарны прагноз надвор’я на заўтра і бліжэйшыя дні.

Мабыць, натуральна. Курорт ёсць курорт, адпачынак — гэта адпачынак. І чалавек з нармальнымі сацыяльна-псіхалагічнымі паводзінамі так усё і ўяўляе.

Яўген адчуваў гэтае „ўсё” асабліва востра. Яму, нібыта прэзэнт, былі вернутыя радасці жыцця. Ён набраў процьму зёлкаў, адкінуўшы рэцэпты і аптэкарскія лекі. Што будзе, то будзе. Боль то адыходзіў, то вяртаўся наноў. Яўген адчуваў сябе валадаром таямніцы. Вось ідуць яму насустрач людзі і не разумеюць, які гэта высокі дар — жыццё. І здароўе. А ён разумее. Праўда, так лёгка і бяздумна, як яны, ён ужо ніколі не будзе мець асалоду ад быцця. Не зможа так не адчуваць эстэтыкі ўзросту. Маладыя, здаровыя... Хаця — калі ён раніцай бег уздоўж мора, гэта далучала яго да курортнага, людства. Здараліся дні, калі яму здавалася: памыліліся эскулапы. Ён здаровы. Аднак боль нечакана насцігаў зноў, прыціскаў да зямлі, проста прыпячатваў у пясок. „Бо зямля ты і ў зямлю сыдзеш...”

У адзін з такіх дзён, ідучы ад мора, Яўген зайшоў у кавярню, глынуў цёплага малака, а выходзячы, зірнуў на сябе ў люстра. На яго глядзеў скасцянела-худы мужчына са спалатнелым тварам. „Imago animi vultus est”. - „Твар — адбітак душы”? Нічога сабе адбітак.

У той дзень ён доўга заставаўся пасля Імшы ў касцёле, потым доўга туляўся па зялёных вулачках горада. „Ты выпрабаваў нас, Божа, Ты перaтапіў нас як топяць срэбра...” „Цяпер радуюся ў пакутах маіх за вас...” „І сцежка Твая ў водах вялікіх...” Думкі Яўгена наслойваліся на мудрасць праведных. І адчуванне, што пакуты яго — пакаранне за легкадумнасць і грахі, але ж і выпрабаванне, спасланае Звыш, не тое каб сцішвала боль, ажно неяк прасвятляла чуццё і розум...

Тое, што ён трапіў выпадкова на мясцовы кірмаш, неяк нават абразіла яго. Аднак ён пайшоў паміж кірмашовымі прылаўкамі. Увогуле-то кірмаш — не тое слова. Так сабе, некалькі гандляроў. Трускаўкі, сыры з кменам. Зёлкі. Ён разглядаў надпісы — латынь, літоўская мова, руская. Твар жанчыны, што прапаноўвала зёлкі, падаўся яму знаёмым, недзе ён сустракаў яе. „Хварэеце?” — спытала яго жанчына. Ён моўчкі кіўнуў галавой. Спытаўшы пра хваробу, жанчына перамяшала некалькі траў, паклала ў адзін мяшочак, зрабіла некалькі асобных пакункаў з розных зёлак. „Дапаможа?” — спытаў, нібыта пра некага староннягa, Яўген. „Магчыма”, — строга адказала жанчына. І ён згадаў, дзе бачыў яе. У касцёле. Высокая, худая, валасы колеру неад-

беленага льну — ці то сівізна, ці то натура такая. «Калі лекі падыдуць — напішыце, вышлю”, — яна падала Яўгену паперку з адрасам.

Амаль адразу пасля адпачынку Яўген, не аказваючыся дактарам, выправіўся на свой аб'ект. Яго задума відавочна матэрыялізавалася. Фундамент будынкаў існаваў. А Яўген выразна бачыў увесь ансамбль, як быццам той на самай справе быў скончаны. „Астральнае клішэ”? Ці проста звычайнае бачанне будаўніка і архітэктара?

Яўген працаваў і чытаў кнігі, якія яму дасылала разам з зёлкамі жанчына з таго прыбярэжнага горада. Рабіў напоі з зёлак. Думаў. Часам не ведаў, ці тыя думкі прыйшлі падчас малітвы, з якой ён звяртаўся да Пана, ці гэта ён прачытаў, ці думкі з’явіліся нібыта і безадносна, аднак і залежна ад малітоўна сцверджанага і прадуманага. Ён імкнуўся адарвацца ад болю.

Сённяшні дзень відавочна знітоўваўся з учарашнім і заўтрашнім. А мінулае вызнавалася, як час, што некалі быў будучым. І тое, што цяпер вымалёўвалася будучым, немінуча ператворыцца ў мінулае... І яго „я” - здаровае, легкадумнае „я” мінулага і ўзмоцненае вопытам пакут „я” сённяшняе і „я” заўтрашняе — гэта адзінае, бесперарыўнае „я”. І зямное жыццё адбываецца ў жыцці вечным. І ў тую вечнасць панясе ён з сабою памножаную пакуту сваю. Але тая пакута ці не памножыць збавенне?

І тое „я” — гэта не нейкая абстракцыя, не бесцялесная душа, але канкрэтная духоўна-ацелаўлёная асоба, што жыве праз смерць. І ён робіцца сапраўды вольным удзельнікам Божага творчага акту. А Бог ставарае чалавека, якому наканавана станаўленне-паміранне і акмэ якога знаходзіцца недзе паміж храналагічнымі датамі жыцця і смерці?

І самааддача Богу магчымая толькі праз самааддачу бліжнім. Праз эмпірыку творчасці, у чым бы яна не выяўлялася. І праз прасвятленне пакутамі — бо той Яўген, што год назад ці крыху больш загараў на поўдні, і сённяшняя асоба звязаныя, але ўзмоцненыя вопытам пакут. Калі не зусім, дык у нечым пазбаўленыя эгаістычнага самасцвярджэння. Ці не перааеэнсоўваецца само яно, Яўгена Тарыча, быццё?

... Ён сустракаўся з прарабамі, будаўнікамі, вылічваў, пералічаў. Жыў. Існаваў. Звяртаўся думкай да Таго, з каго ўсё пачынаецца і ў кім усё завяршаецца. „И будет здесь ей ничего не надо, когда оттуда ринутся лучи...” Тут у яго яшчэ процьма нястворанага. Але ён пачынаў усведамляць, што гатовы прыняць лёс, які наканаваны яму Звыш. „Fiat voluntas Tua!” — „Будзь Воля Твая!”

Яму зноў стала лепш. Яўген не ведаў, што гэта: чарговая рэмісія ці то зёлкі летувіскі з Вышэйшай Волі дапамаглі яму. Але цяпер ён уведаў — наканаванасць перамагаецца праз прыняцце яе.

Яўген вырашыў пакіравацца да таго маладога ўрача. Урэшце: „In Te, Domine, speravi!” На Цябе, Пане, спадзяюся!

*У кн.: Ала Сямёнава. Таямніцы пакутны колер. - Мн., Про Хрысто. 2004.*

## „СЭНСЫ МАЎКЛІВЫХ НЯБЁСАЎ...”

„.Пытаццаў багоў пра таемнае не спяшайся... „
*Рубэн Дарыа*

„Я — Мадыльяні... Купіце...”

І толькі адна жанчына працягвае нейкія грошы, дадаўшы, што малюнак мастака ёй не патрэбны.

Быў такі кадр у кінаверсіі Жана Рэнуара „Монпарнас, 19”. Мадыльяні - Жэрар Філіп — разгублены (грошай няма зусім) і здзіўлена-ўпэўнены (ён ведае пра таямніцу свайго высокага таленту), наіўна-бездапаможны ў сваім адчаі (што рабіць?) і мудра-прасветлены ў тым, што ведае ён адзін з прысутных: ён прапануе шэдэўры.

Размова, аднак, не пра фільм і не пра Жэрара Філіпа, хаця гэты фільм і гэты актор давалі адчуць трагедыю той явы — калі ёсць плен напружанага творчага існавання, а плену не бачаць...

„Я — Мадыльяні...” *Трагедыя лёсу...* Калі паэт Збароўскі дарэмна лётаў па Парыжы, спрабуючы знайсці пакупнікоў на карціны Мадыльяні. Калі глядзела з сумам на тонкія разарваныя лініі на лістку паперы, прапанаваным мастаком за харч („Я не жабрак!), гаспадыня італьянскай траторыі на вуліцы Кампань Прэм’ер — хіба ж яны вартыя, гэтыя лініі, смачнага кавалка мяса , што яна дае небараку?

Калі не толькі гэтая шынкарка Разалі, не разумела мастака, але ж і знаўцы жывапісу папракалі Мадыльяні: не ведае анатамічных прапорцый, грэбуе законамі калёраў, не разумее ўлады святла і ценяў.

... Мадыльяні памёр ад сухотаў у 36 год, яго Жанна выкінулася з вакна , іх маленькая дачка засталася адна...

А праз год адбылася выстава. І распачаўся ўхвальны шум прэсы, з’явіліся кнігі крытыкаў і даследчыкаў. Карціны Мадыльяні прадавалі і прадаюць за грошы, якія і не сніліся мастаку...

...Гісторыя старая, як свет. Паўтораная непамысную колькасць разоў... Мастакі, літаратары, кампазітары... Не кажучы пра актораў, музыкаў... Мастацтва імгненняў... Мастацтва непасрэднай сатворчасці з гледачамі і слухачамі... Па сённяшнім часе створанае імі таксама „матэрыялізуецца” — відавочна і надоўга, але для гэтага павінны спраўдзіцца ролі, адбыцца канцэрты... А колькі не спраўдзілася, не адбылося...

Хаця — і ў тых майстроў пэндзлю, майстроў прыгожага пісьменства, стваральнікаў чару мелодый - рознае здаралася... Рукапісы не гараць? Напісанае застаецца? І гараць, і знікаюць, і набываюць нечаканых гаспадароў.

„Колькі талентаў звялося”, „ не аплаканых нікім”...

Колькі? Не пералічыць...

І якая ўсё ж галоўная асалода, уцеха творцы?.. Нават калі ён пэўна ведае прысуд лёсу: „ я ўміраю...”

Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

А за вокнамі — вясна. 26-я вясна ў жыцці... І мала што гэта год сусветных катаклізмаў (1917-ты) , у Крыму ўсёроўна ўсё ў квецені, усё жыве, усё шчасліва набірае сокі, усё святочна нагадвае аб радасці Быцця...

І неаспрэчна — апошнія дні, гадзіны, хвіліны... „Скончу век малады...” За вокнамі — ноч, побач — ні-ко-га. Аднак: „ Я не самотны, я кнігу маю...”

...Тоненькая кніжачка ў мяккай вокладцы... „Вянок”... Тым не менш — відавочны плён таленту. Вялікага таленту. Максіма Багдановіча...

І адчуванне свайго Дару. І сапраўднасць яго...

... Пакліканне Таленту... Адчуванне Духу Боскага... Што спатоліла душу Максіма Багдановіча і ў апошнія яго хвіліны... Што высвечвала вышыні творчага празарэння ў зямным быцці Шапэну — згадаем хаця б яго вальс мі мінор, створаны незадаўга да канца: яго пазначаюць — „пасмяротны”. Што надавала моцы Язэпу Драздовічу — мастаку, мысленніку, пісьменніку — ў яго падарожжах па роднай зямлі і ўражаннях ад свайго краю, увасобленых у вобразах мастацтваў выяўленчых і ў мастацкім слове, у яго касмічных мроях-празарэннях...

... Пакліканне Таленту... Што давала сілы заканчваць „Майстра і Маргарыту”, пакутуючы ад смяротнай хваробы, Міхаілу Булгакаву. Пакліканне Таленту, што прымусіла графа Сэнт-Экзюперы асвойваць Планету людзей у небе Еўропы, Афрыкі, Паўднёвай Амерыкі... Над Атлантыкай, Кардыльерамі, С'ерра-Марэнай... Бо дзеля таго, каб выявіць талент, “каб пісаць, трэба жыць”. А яшчэ ўмець „патаемна... выкарыстоўваць нешта, чаму няма назвы”. Чаму няма назвы і што надае веры, калі ніхто вакол не разумее, нішто, здавалася б, не спрыяе.

... У фільме Боба Фосса пра Моцарта пад назвай „Амадэо” ёсць надзвычай удалая і свядомасна дакладная сцэна. На Моцарта крычыць цешча. А той чуе толькі пачатак яе тырады — бо нават гэтая лаянка: штуршок для перастварэння яе ў гукі, нотныя знакі ў мелодыю! Той, хто валодае Дарам — ва ўладзе Дару! Суб'ект робіцца аб'ектам дзеяння!

... Ва ўладзе Дару...

Ці не таму так высока мудрыя і высока наіўныя геніі, таленты? Ну, чаму б Моцарту не ўхваліць сімфонію барона ван Світэна? Можа, і знайшоў бы той грошы, каб прыстойна пахаваць Ёгана Вольфганга Моцарта? А Моцарт не ўхваліў…

І чаму б не сядзець спакойна сусветнаму вядомаму фізіку Дзмітрыю Сахараву на з'ездзе народных дэпутатаў? А ён, нібыта з дзіцячым наівам, пад гугаканне залы, упарта ішоў да трыбуны, хаця ведаў — пасля высылкі, пасля шматгадовага высочвання — большасці з прысутных, тым, хто кіраваў і вызначаў, даказаць нічога немагчыма. І ўсё ж… Ішоў, ведаючы, чым гэтае новае выпрабаванне можа скончыцца для яго… І скончылася…

… Чалавек ва ўладзе Дару… Дадзенага яму, каб перадаць, выявіць непаўторнасць, адзінкавасць Быцця. Вядомае і невядомае. Бясконцае і лёсавызначальнае. У тым спосабе выяўлення, што наканаваны Звыш. Мабыць, тут Звыш дадзеная ўнутраная вызначанасць індывідуальнага Быцця, якому сам чалавек надае накірунак і сэнс. „ Абсяг падсвядомага ў генія не паддаецца вымярэнню" (Б. Пастарнак).

Нястрымны ў сваіх вялікіх задумах Мікельанджэла; магутны ў адухоўленай размове з вечнасцю Бах; вялікі ў сваім адчуванні сапраўднага духу і маштабу часу Бетховен; ці не адзіны ва ўменні спалучыць сусветнае (вселенское), агульначалавечае і асабістае Блок; шматаблічны ў выяўленні сутнасді душы — ў адзінаборстве з жыццём — Сальвадор Далі; непараўнаны ў спалучэнні філасофскіх абагульненняў і паэтычнай вобразнасці, што мае вытокам гармонію ў слове, у архітэктуры, музыцы, жывапісу — Цыпрыян Норвід…

… Геніі… Таленты… Нехта ўспыхваў і згараў. Як свечка. Як знічка — што падае недзе там, у астральных прасторах… Як Лермантаў… Максім Багдановіч… Сяргей Ясенін. Персі Бішы Шэлі.

Нехта жыў доўга і змястоўна… І „памёр…, насычаны днямі…" Ёган Вольфганг Гётэ, Леў Талстой, Томас Ман… Урэшце — Леанардо да Вінчы… (У XV-XVI стагоддзях, калі жыў мастак, чалавечае жыццё было кароткім, і яго 67 год — амаль біблейскі век).

У сярэдні свой узрост здолелі змясціць — сэнс эпох, шматзначнасць задум, тэм, ідэй, найтанчэйшыя ўзаемадачыненні свядомасці, спрадвечнае імкненне да ісціны Уільям Шэкспір, Аляксандр Блок…

Як абраннікі Божыя, таленты часцей за ўсё прымалі сваю долю пакут у сваім зямным існаванні. Ці на ўсім шляху сваім, ці — на пэўным адрэзку яго, ці напрыканцы жыцця…

Трагічныя некалькі грамаў свінца: дуэль Лермантава, гібель пры Шэгенвары падчас паўстання 1848 года Шандара Пёцефі, расстрэл фашыстамі Федэрыка Гарсія Лоркі…

Пакутны канец Пушкіна, выпрабаванне болем хваробы Бальзака, жорсткая расплата за імкненне спазнаць бездань жыцця ва ўсіх праявах: Гейнэ, Мапасан... Уайльд... Зыход з Яснай Паляны Льва Талстога...

Трагедыя лёсу... Трагедыя зямнога існавання...

...Шклянкі з морфіем і атрапінам на Ранча Хараства — апошні ўчынак Джэка Лондана... Чаму? Быў стомлены здрадамі, няўдзячнасцю, адкрытай подласцю? Зломлены жыццём? Не мог больш пісаць на ўзроўні „Белай ціішы” і „Марціна Ідэна”? Ці — ўсё разам? Вырашыў, паводле меркавання яго сябра, Джорджа Стэрлінга, „не заседжвацца ў кампаніі ўласнага трупа”?

...Паляўнічае ружжо, стрэлам з якога 2 ліпеня 1961 года ў Кэтчуме падвёў рысу пад сваім жыццём Эрнэст Хэмінгуэй... „Чалавек не для таго створаны, каб цярпець паражэнне”, — гэта яго словы. Тата Хэм — хаця і са „згубленага пакалення”, аднак з пароды пераможцаў...

...Паражэнне пераможцаў... Асоб, у якіх не толькі героі іх твораў, але і яны самі сталіся для многіх пакаленняў эталонам мужчыны, — пераможцы стыхій, увасабленне мужнасці, высакародства, абаяльнасці, стойкасці, трываласці...

46 - Джэку Лондану, 62 — Эрнэсту Хэмінгуэю... 29 — Ясеніну, 37 — Маякоўскаму...

Сусветна вядомыя празаікі — на вяршыні славы... Рускія паэты — на вяршыні славы і няславы...

... А вось смяротна хворы Антуан Ватто ствараў сваіх куртуазных „Капрызніц”... І напаўгалодны сухотнік Аляксандр Грын пісаў раманы-феерыі, раманы-мроі...

Шматлікія даследчыкі, біёграфы вызначаюць факты жыцця, звяраюць, пазначаюць асацыяцыі, аналізуюць, падводзяць вынікі, ствараюць сур’ёзныя і менш сур’ёзныя творы пра знакамітых... Аднак... Застаецца страшная, бязмерная, бясконцая таямніца... Загадка... Як і загадка мастацтва... Выратавальнага. Мастацтва — карніка і суддзі. Мастацтва — лекара. Мастацтва вызначальніка свабоды Быцця...

У нас на тым абсягу, што стаўся дасавецкім, савецкім, савецкім, постсавецкім, існавала, і на жаль, існуе тэндэнцыя, схільнасць да вульгарна-сацыялагічнага тлумачэння фактаў і з’яў мастацкай рэальнасці. (Маю на ўвазе мастацтва ў самым шырокім сэнсе).

То дык ва ўсім абвінавачваўся „рэакцыйна-прыгонніцкі лад”, то „царызм”, „сталінізм”, „таталітарызм” — усё ў залежнасці ад часу пісанняў. Безумоўна і бясспрэчна — валадары зямныя, занятыя справамі ў часе гістарычным, хай сабе і глабальнага маштабу, і тыя, хто імкнецца да ўвасаблення бессмяротнай свядомасці ідэй, не так

часта знаходзяць паразуменне. І хаця „сильные мира сего” бываюць часам не чужыя мастацтвам і лічацца аматарамі — музыкі, прыгожага пісьменства, а таксама — прыхільнікамі Мельпамены, Тэрпсіхоры і іншых муз дыстынктоўных мастацтваў, аднак нават прыблізна вызначыць, што нехта ўзвышаецца над імі над вялікай зоркай бессмяротнасці, а не пад абаронай „трону” (якія б трансфармацыі на пэўных гістарычных этапах не адбыліся з канкрэтнымі знакамі ўлады), не, гэта на ўсіх прыступках улады ўяўляюць вельмі рэдка.

Аднак — не толькі стасункі са знешнім светам, з індывідуумамі далёкімі і блізкімі, вызначаюць самасвядомасць мастака, стыль яго паводзін, мецяць прадчуванні душы. Выяўляцца гэта можа нечакана і ў самых розных формах. Як і выратавальная і пагібельная трывога (напрыклад, у 1902 годзе ў Блока з’яўляцца такія радкі : „Мой конец предначертанный близок, / И война, и пожар впереди”), як узнясенні на вышыні і падзенні ў бездань.

І тут ужо не мае значэння ні гістарычны час, ні тое, на якіх шыротах вызнае існаванне мастак, ні тое, хто там рулюе, кіруе, правіць. Знешне — скажам, нічым як быццам не пазначаная і абумоўленая дэпрэсія. Або той дыянісійска-вакхічны строй, што не абмінуў самых тонкіх мастакоў, на розных геаграфічных кропках, у розных сацыяльных і сітуацыйных варунках.

Аляксандра Блока, Сяргея Ясеніна, Эдгара По, Амедэо Мадыльяні, Аляксандра Фадзеева, Уладзіміра Высоцкага... Ды і ці толькі іх...

Блок, асабліва ў лістах да маці, увесь час імкнуўся патлумачыць і нават апраўдаць шал паводзін, лічачы, што чар пітва „ўнутрана спрастоўвае (выпрямляет) чалавека, далучае яго да бяскрайняга свету, палёту стыхій, музыкі сфер, якая чутна толькі тады, калі надыходзіць забыццё атачэння”. А паэт Гафіз кідаў сваім абвінаваўцам:

Зачем ты пьешь? Я знать желаю!
Скажу, зачем: я зол и горд,
И в море пьянства выезжаю,
Чтоб зло все выбросить за борг.

(Цытую ў перакладзе Ул. Салаўёва, не рызыкуючы перастварыць пераклад).

...Чыталася, думалася пра тое — падчас напісання „Бэзавага попелу” (аповесці-эсэ паводле ліставання з Міхасём Стрельцовым)... Напісанае — не ўключыла ў тэкст. (Мабыць, правільна зрабіла — хапіла і так правінцыйна-кухарскіх „трактовак” паводле таго допісу). Пазней — былі разважанні падчас роздуму над матэрыялам пра Анатоля Сыса. Пісалася пра тое, што калі згадаю гэтага паэта, дык помняцца не буянствы ў Доме літаратара, або якія эскапады гэткага ж кшталту, а

